# СВАБОДА

№29 — 30 2 жніўня 1994 г.

Кошт 400 рублёў


# Зьезьдзім у Маскву, падзелім партфэлі і вось тады зажывем

- Прэзыдэнт спадзяецца прывезьці з Масквы гурбу грошай. Расея выстаўляе свае ўмовы
- Улада абяцае на гэтым тыдні завяршыць дзяльбу партфэляў
- Булахава называюць «шэрым кардыналам»
- Новыя парляманцкія выбары: здаецца, пакуль толькі Апазыцыя ведае, чаго хоча



## Лукашэнка едзе на аўдыенцыю да Ельцына

Галоўнай падзеяй гэтага тыдня абяцае стаць паездка прэзыдэнта Беларусі ў Маскву. Аднак уражаньне такое, што сам Лукашэнка ня надта добра ўяўляе сабе мэту гэтага візыту: то яны заяўлялі, што зьбіраюцца падпісаць міждзяржаўную дамову, то паведамляюць, што паездка будзе мець «азнаямленчы характар...» Такая няпэўнасьць сьведчыць пра тое, што візыт не падрыхтаваны як сьлед.

Лукашэнку вельмі хацелася як найхутчэй атрымаць аўдыенцыю ў Ельцына, і Масква «пайшла насустрач». Прэзыдэнт Беларусі едзе туды з працягнутай рукой — будзе прасіць крэдыт у 750—800 млрд. расейскіх рублёў. Столькі, відаць, расейцы не дадуць, аднак трохі, напэўна, пазычаць. Са свайго боку Масква настойвае, каб Беларусь згадзілася ўтрымліваць расейскія войскі на сваёй тэрыторыі сама мала да 2000-га году. Нашае кіраўніцтва нібыта ня супраць.

Аднак першым пунктам ва ўрадавым «Пляне падрыхтоўкі да візыту» пазначана: «Падрыхтаваць праект Дамовы аб дружбе, добрасуседзтве і супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусяй і Расеяй».

Нам дакладна вядома, што гэты праект быў дасланы з Масквы. Беларускі бок толькі трохі падкарэктаваў яго, істотна нічога не зьмяніўшы. З крытыкай гэтага праекту выступіла Апазыцыя БНФ, якая лічыць, што падпісаньне дамовы ў такім выглядзе супярэчыць інтарэсам Беларусі. Маюцца на ўвазе, у прыватнасьці, артыкулы пра вайсковае супрацоўніцтва, а таксама пра «каардынацыю і ўзгадненьне» фінансавай, бюджэтнай, падаткавай палітыкі і г.д.

Ніводная краіна, якая паважае сябе і дбае пра нацыянальныя інтарэсы, ніколі вось так «з кандачка» нічога ня робіць, тым больш, калі справа датычыць «вялікай» міждзяржаўнай дамовы. Апрача доўгай падрыхтоўчай працы, узгадненьня пазыцыяў, дакументы такога кшталту спачатку звычайна парафуюцца міністрамі замежных спраў, і толькі пасьля падпісваюцца кіраўнікамі дзяржаў. Будзем спадзявацца, што дасьведчаныя ў такіх справах чыноўнікі беларускага МЗС растлумачаць прэзыдэнту, што сьпяшацца ўсё ж ня варта.

## У Доме ўрада разьмяркоўваюць партфэлі і займаюць кабінэты

На гэтым тыдні мы напэўна ўжо даведаемся пра склад новага Кабінэту міністраў. Тыя, хто быў прызначаны раней, занялі месцы. Як паведаміла агенцтва СІМ, Аляксандар Лукашэнка разьмясьціўся ў шыкоўных апартамэнтах былога прэм'ера Вячаслава Кебіча. Прэм'ер-міністар Міхаіл Чыгір засяліўся ў кабінэт былога 1-га намесьніка Кебіча Міхаіла Мясьніковіча. А сп.Мясьніковіч перабраўся ў кабінэт былога віцэ-прэм'ера Станіслава Брыля. Новыя віцэ-прэм'еры Віктар Ганчар і Ўладзімер Гаркун занялі кабінэты сваіх папярэднікаў — спадароў Дземчука і Бокача. І толькі віцэ-прэм'ер Сяргей Лінг застаўся ў сваім ранейшым кабінэце.

Хто зойме астатнія міністэрскія пасады? На гэты конт з акружэньня прэзыдэнта даходзяць супярэчлівыя зьвесткі. Упэўнена сьцьвярджаюць толькі тое, нібыта з ранейшых міністраў практычна ніхто не застанецца, апрача хіба што аднаго-двух. Кажуць, што прэтэндэнтаў на міністэрскія пасады шмат. Многія зь іх з дэпутацкімі мандатамі. Напрыклад, на пасаду міністра сельскай гаспаркі мяркуецца дэпутат ВС Васіль Лявонаў — былы першы сакратар Магілёўскага абкаму КПБ, які апошнія тры гады працуе гандлёвым прадстаўніком Беларусі ў ФРГ. На пасаду міністра транспарту будзе прызначаны дэпутат Аляксандар Лукашоў, які быў разам з Лукашэнкам у перадвыбарчай кампаніі.

У адміністрацыі прэзыдэнта ствараецца таксама Кантрольная служба, якую згадзіўся ўзначаліць дэпутат ВС Васіль Даўгалёў.

Чакаецца, што будзе зьменена кіраўніцтва СМІ, у прыватнасьці, тэлебачаньня і радыё, а таксама газэтаў «Рэспубліка», «Советская Белоруссия» і «Знамя юности». Пра тое, каб адпусьціць дзяржаўную прэсу на свабоду, гаворка пакуль не вядзецца. Здаецца, і самі рэдакцыі на свабоду ня надта імкнуцца, бо разумеюць, што пазбавяцца датацыяў зь бюджэту і давядзецца на шмат больш працаваць, каб неяк выжыць. А многа працаваць, як вядома, у нас ня надта любяць.

*Працяг на стар.2*


ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар
**Ігар ГЕРМЯНЧУК**

Заснавальнік **Павал ЖУК**

Выдавец
**«Газэта СВАБОДА», Ltd.**

Наклад 45 000



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
**220088, Менск, вул.Іванаўская, 56**

**Тэл. 36-24-41**


# Да чытачоў

**Гэты нумар мы выпускаем павялічаным аб'ёмам з тае прычыны, што на мінулым тыдні СВАБОДА ня выйшла: паштовае ведамства, «як і ўсе людзі», сьвяткавала Дзень Незалежнасьці і не было каму даставіць газэту падпісчыкам і ў продаж. Будзем спадзявацца, што гэтыя паштовыя «тайм-аўты» сярод тыдня (чыста савецкая зьява, дарэчы) некалі ўсё ж адамруць і газэты будуць развозіць нават у выходныя.**
**А зараз яшчэ адна непрыемная навіна: на наступным тыдні СВАБОДА ня выйдзе: ўся рэдакцыя (5 супрацоўнікаў) на адзін тыдзень сыходзіць у адпачынак. Наш «тайм-аўт» рэч таксама ненармальная, аднак спадзяемся, што чытачы пастаўяцца з разуменьнем. У нашым выпадку, калі газэта робіцца мінімальным штатам, іншага выйсьця няма. Абяцаем кампэнсаваць «маральныя страты» павялічаным аб'ёмам СВАБОДЫ ў верасьні.**
**А наступны нумар газэты выйдзе 16 жніўня.**



**На здымку: Вячаслаў Кебіч віншуе Міхаіла Чыгіра з прызначэньнем на пасаду прэмьер-міністра**

*Падпісацца на газэту СВАБОДА можна ў любы час і ў кожным паштовым аддзяленьні*

# Зьезьдзім у Маскву, падзелім партфэлі і вось тады зажывем

Пачатак на стар.1

Многіх цікавіць, якую пасаду Лукашэнка дасьць Дзьмітрыю Булахаву — «35-гадоваму дэпутату са зьнешнасьцю Алена Дэлёна» (так прадставіла яго адна маскоўская газэта). Ёсьць зьвесткі, што прэзыдэнт зьбіраецца прызначыць сп.Булахава дзяржаўным міністрам па справах СНД зь неафіцыйным статусам віцэ-прэм'ера. Тым часам сам Булахаў заяўляе, што будзе займацца «пытаньнямі агульнай палітыкі прэзыдэнта». Аднак, якую б пасаду не займаў Булахаў, ён безумоўна будзе граць адну з ключавых роляў у атачэньні Лукашэнкі. Некаторыя ўжо цяпер называюць яго «шэрым кардыналам». Выказваецца меркаваньне, што на Булахава будзе ўскладзецца задача падрыхтоўкі прэзыдэнцкай кампаніі да новых парляманцкіх выбараў і стварэньне дзеля гэтага прапрэзыдэнцкай партыі.



Аднак пакуль самі лукашэнкаўцы яшчэ ня вызначыліся адносна новых выбараў — праводзіць іх датэрмінова ці чакаць вясны, калі гэты Вярхоўны Савет паводле Канстытуцыі павінен скласьці паўнамоцтвы. Прэзыдэнту, безумоўна, выгадна было б правесьці выбары як найхутчэй (да зімы), пакуль ён карыстаецца падтрымкаю выбаршчыкаў — на каго пакажа, за таго могуць і прагаласаваць.

Бо калі ў кватэрах будзе зімна, а ў крамах — дорага альбо зусім пуста, то правесьці сваіх людзей будзе цяжка. Але ў Лукашэнкі малавата сілаў, каб фарсіраваць выбарчую кампанію. Таму, відаць, раней сьнежня-студзеня выбары наўрад ці могуць адбыцца. А Вярхоўны Савет, безумоўна, зацікаўлены дасядзець да вясны.

Праблема яшчэ ў тым, які закон аб выбарах будзе прыняты. Вярхоўны Савет, як вядома, пайшоў шляхам уняcеньня паправак у стары закон (прынята дзевяць артыкулаў), якія фактычна захоўвае ранейшую сыстэму, за выключэньнем гарантаванай квоты для вэтэранаў і інвалідаў. Апазыцыя настойвае на выбарах паводле мажарытарнай і прапарцыянальнай сыстэмаў — 50% дэпутатаў выбіраецца з партыйных сьпісаў, другая — па акругах. Астатнія палітычныя сілы пакуль ня ведаюць, які варыянт ім больш выгодны. Калі лукашэнкаўцам і былой «партыі ўлады» ня ўдасца стварыць свае ўплывовыя грамадзкія структуры (а за кароткі час гэта зрабіць складана), то можна чакаць, што ніякіх партыйных сьпісаў ня будзе. Камуністы, здаецца, у гэтым таксама не зацікаўленыя, атрымаўшы на прэзыдэнцкіх выбарах менш 5 працэнтаў.

Зь вялікай верагоднасьцю можна прадказаць адно: новы Вярхоўны Савет ня будзе такі маналітны і разам з тым інэртны, як цяперашні.

**Іван СІДАР**



# Народны Фронт стварыў выбарчы камітэт

**Сойм Беларускага Народнага Фронту прыняў рашэньне аб стварэньні Выбарчага камітэту БНФ, які будзе займацца падрыхтоўкай да выбараў у Вярхоўны Савет Беларусі.**

Паводле словаў намесьніка старшыні БНФ Юрыя Хадыкі, які стаў на чале выбарчага камітэту, гэтая структура павінна прааналізаваць перадвыбарчую сытуацыю, падрыхтаваць сьпісы кандыдатаў у дэпутаты, якіх будзе падтрымліваць БНФ на парляманцкіх выбарах, дапамагчы ім у стварэньні «каманд», а таксама прыняць удзел у выпрацоўцы агульнай для БНФ перадвыбарчай плятформы. Ю.Хадыка мяркуе, што фармаваньне камітэту завершыцца не раней верасьня.

Тым часам лідар БНФ Зянон Пазьняк 28 ліпеня наведаў Гомель.

На сустрэчы ў гарадзкім савеце з дэпутатамі, інтэлігенцыяй, бізнэсмэнамі і прэсай З.Пазьняк адзначыў, што мэта ягонага візіту — азнаёміцца з палітычнай сітуацыяй у горадзе, канчаткова вызначыць сваю пазіцыю ў адносінах да выбараў, як маючых адбыцца парляманцкіх, так і прайшоўшых прэзыдэнцкіх.

Сваю паразу ў прэзідэнцкай кампаніі ён пракамэнтаваў як «тыповы зьбег акалічнасьцяў», аднак у тым, што Гомельскі рэгіён фактычна не падтрымаў ягоную кандыдатуру, лідар БНФ бачыць недапрацоўкі сваёй каманды. Да таго ж, заўважыў ён, рада БНФ у Гомелі не такая моцная, як таго хацелася б.

29 ліпеня Зянон Пазьняк наведаў Ветку і Добруш, дзе правёў сустрэчы з выбаршчыкамі.

**БелаПАН**

# На паштовую марку ня так проста патрапіць

**Беларускае міністэрства сувязі і інфарматыкі зацьвердзіла Палажэньне аб дзяржаўных знаках паштовай аплаты Рэспублікі Беларусі.**

Паводле палажэньня, паштовыя маркі, блёкі, маркаваныя канвэрты і карткі «павінны адлавядаць духу прэамбулы Сусьветнага паштовага саюзу, адлюстроўваць у сваіх сюжэтах гістарычныя і культурныя здабыткі Рэспублікі, флёру і фаўну, дасягненьні ва ўсіх галінах чалавечых ведаў, асноўныя падзеі ўнутранага і міжнароднага жыцьця, адзначаць высокімі мастацкімі вартасьцямі».

Вызначана, што маркі ня будуць прысьвячацца асобам, якія яшчэ жывуць. Знакамітыя палітыкі, а таксама дзеячы навукі, культуры і мастацтва могуць быць выяўленыя на паштовых знаках не раней, чым праз дзесяць гадоў пасьля сьмерці і выключна да юбілеяў са дня нараджэньня.

**Аляксандар МАЛЧАНАЎ, БелаПАН**

**Гэта была адна з апошніх інфармацыяў, якую напісаў 28-гадовы карэспандэнт агенцтва БелаПАН Аляксандар Малчанаў. Заўчора, 31 жніўня, яго пахавалі. Наш малады таленавіты калега трагічна загінуў у вадзе Бярэзіны.**

**Рэдакцыя СВАБОДЫ шчыра спачувае родным Аляксандра Малчанава.**

## Сёньня

Сяргей ДУБАВЕЦ

# Мёртвы сэзон

Беларусь на прыколе. Чаму стаім? Кажуць, мёртвы сэзон, пэрыяд летніх адпачынкаў, «людзі ня вернуцца з дач»... Курыца, хлопцы, адпачывайця...

Слова «летні» тут цалкам умоўнае, бо «пэрыяд адпускоў» без перапынку на зіму цягнецца ўжо тры гады. Беларусь на прыколе. Адпачываюць усе. Адпачываюць у суботу-нядзелю, бо выходныя, у пятніцу, бо канец тыдня, і ў панядзелак, бо «цяжкі дзень», у аўторак, сераду і чацьвер, калі да 12-ці нікога ня знойдзеш, бо рана, а пасьля 15-ці — бо позна, з 12 да 15 — бо абед. Дзяржаўныя, народныя і іншыя сьвяты зьліпаюцца ў тыднёвыя камякі ўсеагульнага бязьдзельля. Беларусь стаіць.

Адпачываюць усе. Вярхоўны Савет адпачывае, бо ўсё адно — крызіс, і, што ні рабі, становіцца толькі горш. Вось, можа, прэзыдэнт прыйдзе, пабудзіць... А калі ВС зьбіраецца на прэзыдэнцкую прысягу, тады адпачывае беларускае радыё, якое перадае ў гэты час эксклюзыўнае паведамленьне зь Віцебску — у тамтэйшым рэстаране навіна: украінскі боршч з пампушкамі! Інаўгурацыя прэзыдэнта краіны і адстаўка прэм'ера — падзеі мізэрныя і вартыя хіба што згадкі ў вечаровым агглядзе.

Беларускае антырадыё — бадай, самае неінфармацыйнае радыё ў сьвеце. Там няма апошніх паведамленьняў у пачатку кожнай гадзіны, а калі раптам і выскачыць навіна, то абавязкова на таджыцкую тэму. Там дыктары з замагільнымі і бяздумнымі галасамі захоўваюць вернасьць уласным традыцыям, і калі раней Ядвігіна Ш. называлі «Ядвігін Трэйц», то цяпер Алеся Разанава называюць «Альдар Разанаў». Там бясконца круцяць расейскую эстрадную папсу, якую цяжка назваць музыкай... Падобна, што ўвесь радыйны бюджэт ідзе на розныя «радыёкаруселі» і «радыёсупервосем». Словам, усё наадварот. Беларускае радыё — не гадзіньнік з навінамі, меркаваньнямі і музыкай, а парк культуры і адпачынку. Курыца, хлопцы, адпачывайця!

Адпачываюць духоўныя айцы нацыі, знаходзячы апраўданьне ў тым, што іх адпачынак — заслужаны.

Адпачываюць заводы, крамы і нават бізнэсмэны. Апошнія — на Кіпры ці на Гаваях. Маса народу адпачывае па «садовых участках», што дазволіла паэту патэтычна ўсклікнуць: «О, родная зямля! Як шыба мухамі, заседжаная ты дачнікамі!» Адпачываюць ад прадуктаў харчаваньня — хто ад дарагой кавы, а хто і ад таннага хлеба. Адпачываюць ад грошай, ад працы, ад думак, ад жыцьця.

Адпачываюць, бо стаміліся. Шукаючы сьведчаньняў гэтае стомы, я зазірнуў у гадавік СВАБОДЫ за 1990 год. Перадавы артыкул Уладзімера Арлова ў 5-6 так і называўся «Мы стаміліся». Ад чаго? «... ад дасягнутых пад кіраўніцтвам партыі велічных посьпехаў... ад нашых маштабных дасягненьняў у Харчовай праграме... ад усенароднай барацьбы з п'янствам і алкагалізмам... ад шырока разгорнутага сацыялістычнага спаборніцтва... ад удзячнасьці стваральнікам сацыяльнае праграмы «Жыльлё-2000»... Мы стаміліся змагацца за правы гарлемскіх нэграў... есьці ўмоўна чыстую ежу... чытаць умоўна праўдзівую «Праўду»... быць умоўна роўнымі... умоўна вольнымі... умоўна жывымі...»

Гэта было ў 1990 годзе. Якраз тады і пачаўся наш працяглы мёртвы сэзон. Я параўноўваю яго з сытуацыяй у суседніх краінах, у той жа Літве, дзе, здаецца, усе і ўсё працуе і ўдзень, і ўначы, і рана, і позна. І ніхто ня робіць круглыя вочы, маўляў, «пэрыяд летніх адпачынкаў ёсьць і ў Эўропе, і ў Штатах, і гэта нармальна». Але ў Эўропе і Штатах ужо «зьдзелалі дзела»...

Ненармальна, калі адпачывае апазыцыя. Вось ужо тры гады літоўскі калега З.Пазьняка В.Ландсбергіс не радзей, чым 2 разы на тыдзень дае прэс-канфэрэнцыю, у якой прадстаўляе адносіны свае партыі да ўсіх зьменаў у краіне. Гэтак ён рабіў да таго, калі прыйшоў да ўлады, пры ўладзе і пасьля таго, як уладу страціў. Актыў партыі Ландсбергіса за два гады яе існаваньня перавысіў 25 тысяч чалавек, а 300 тыс. подпісаў за рэфэрэндум, якія належыць сабраць за месяц, яны сабралі за тыдзень. Што да нас, то дзьверы штаб-кватэры БНФ пасьля прэзыдэнцкіх выбараў былі зачыненыя. Тут знайшлі для сябе зручную формулу «добра праведзенай выбарчай кампаніі» (чытай — правалу, бо Пазьняк узяў толькі галасы тых, хто на колішнім гарбачоўскім рэфэрэндуме, яшчэ да мёртвага сэзону, выказаўся супраць СССР), і — хутчэй адпачываць.

Ад чаго стаміўся БНФ?

Перачытваючы артыкул у СВАБОДЗЕ 1990 году, я падумаў: а можа адпачынак скончыцца тады, калі людзі пачынаюць забывацца на тое, ад чаго яны стаміліся?..

# Французскія скаўты будуць прыбіраць Мірскі замак

**Запланаваная на 23 ліпеня — 8 жніўня паездка 14-ці беларускіх скаўтаў у Францыю, куды іх запрасілі французскія скаўты і Сусьветнае бюро скаўцкага руху, не адбылася. Прычына банальная — не пасьпелі аформіць дакументы.**

Тым часам група французскіх скаўтаў 26 ліпеня прыехала ў Беларусь, каб разам з нашай моладзьдзю заняцца добраўпарадкаваньнем тэрыторыі Мірскага замка.

**Юрась ДУБІНА, БелаПАН**

# Рабіце стаўкі!

Прабяжыце 5 міляў і вы адчуеце, як ваша галава ачышчаецца ад рознага хлуду. Прыміце ледзяны душ і вы адчуеце сьвежасьць у вашым целе. Пагаладуйце з тыдзень і вы адчуеце ў сабе неверагодную лёгкасьць... Здаецца, нешта падобнае адчувае цяпер Беларусь: вызваленьне ад ранейшых шлякаў-стэрэатыпаў, ажно дых захоплівае ад прасторы манэўру, затуманіліся палітычныя вышыні, затое зусім рэальна і выразна выглядае ўсё навокал кожнага з нас: людзі, рэчы, паветра... Ніякага жаданьня зьбівацца ў кучкі, калектыўна адчуваць, думаць і прымаць рашэньні. Сёньня трэба зьдзяйсьняць свой асабісты праект. Няхай жыве індывідуалізм!

Ня выключана, што гэта якраз тая ***палачка***, пра якую спрадвеку марыў беларускі народ. Пра тое, што яна ілюзорная, мы будзем думаць заўтра. Калі самі не спрычынімся да яе матэрыялізацыі. Лавіце момант, панове.

Сёньня — час зьмены акцэнтаў. Гэта значыць, што лініі канфліктаў і «водападзелаў» у грамадзтве могуць пралегчы ў іншых месцах. І менавіта цяпер нам дадзена на іх паўплываць.

... Зноў кудысьці прапалі камуністы. Прарасейскі прэсынг пашырыўся, але стаў больш хаатычны і як бы неабавязковы. Менавіта цяпер у беларускіх партый і рухаў ёсьць магчымасьць падрыхтаваць сабе прастору для валявых дзеяньняў, найперш — арганізаваць сваю штодзённую прысутнасьць у сродках масавай інфармацыі. І пакуль у кіраўніцтве прэсай пануе хакум, што так падобны да свабоды слова, можна зрабіць гэтую прысутнасьць правілам. Карыстайцеся момантам, панове.

Гэты час — удалы для запачаткаваньня новых партыяў і рухаў, новых прадпрыемстваў, для стварэньня сям'і, для пісаньня вершаў і распачатку кніг. Гэта наогул час пачынаньняў. Таму ня сьпіце, панове. Грамадзкай сытуацыі, якая будзе экзамэнаваць вашыя партыі, сем'і і кнігі, яшчэ няма. Яна сама яшчэ творыцца з хаосу. Якая яна будзе заўтра, такая будзе. Але вы ўступіце ў яе не з пустымі рукамі і не на голы грунт. Сёньняшнія ініцыятывы экзамэнаваных хутчэй за ўсё будуць прызнаныя разам з экзамэнатарам — як дадзенасьць.

Паступова сытуацыя будзе альбо ператварацца ў нятворчую й дэструктыўную зусім ужо стыхію, альбо — жарсьцьвець і структуравацца. Але лёгкасьць гэтага моманту можна і надалей захоўваць у душы, калі запачаткаваць сваю справу сёньня. Інакш нам застанецца толькі настальгічна згадваць гэтыя дні, тыдні і месяцы, калі ў нас быў рэальны шанц.

**Сяргей ПАЎЛОЎСКІ**

Пошта

# Два пытаньні да міністра ўнутраных спраў

27 ліпеня, у 21.55 я стаяў ля помніка Максіму Багдановічу на вуліцы Янкі Купалы ў Менску, чакаючы салюту. Міма праходзіла гурба моладзі — чалавек 5—6. Яны ішлі спакойна. Адзін з хлопцаў, дастаўшы дзяржаўны сьцяг, прымацаваў яго да дрэўка і падняў над галавою. Але раптам зьявіліся двое патрульных міліцыянтаў і рэзка запатрабавалі «убрать этот флаг». Я мусіў далучыцца да юнакоў і стаць на іхны бок. Кажу міліцыянтам:

— На якой падставе вы забараняеце несьці дзяржаўны сьцяг?

— Мужчина, не вмешивайтесь, идите своей дорогой, какое вам дело?

— Гэта мая справа, мой сьцяг, іхны сьцяг і, дарэчы, ваш таксама...

— А вы знаете чей это флаг? — спытаў адзін зь міліцыянтаў, цынічна трымаючы цыгарку ў кутку вуснаў. — Это флаг националистов. Мы этим флагом сапоги вытирали...

— Гэты сьцяг вісіць на Доме ўраду.

— Вот, вот, почему он там еще висит, — кажа маленькі сяржант.

Мы спрабавалі высьветліць прозьвішчы гэтых міліцыянтаў, аднак яны адмовіліся назвацца. А на пытаньне — чаму ўсё ж нельга несьці ў сьвята свой сьцяг? — сяржант заявіў: «Нам дали такое распоряжение, штоб мы всех с этим флагам задерживали».

Дзякуй. Прыгадваю, калі ў 60-я гады амэрыканскі сьпявак Дзін Рыд дэманстратыўна памыў сьцяг ЗША, пратэстуючы супраць вайны ва Ўетнаме, дык быў аштрафаваны судом на некалькі сотняў даляраў за зьнявагу нацыянальнага сьцяга. А ў нас, аказваецца, міліцыянты (!) дзяржаўным сьцягам «сапоги вытирают»..., і маюць «распаражэние» затрымліваць усіх, хто ходзіць зь ім па вуліцы, нават у дзень сьвята Незалежнасьці.

З гэтае нагоды ў мяне два пытаньні да міністра ўнутраных спраў:

Што гэта за «распаражэние» такое, чыё гэта вынаходніцтва?

Хто менавіта «вытирал сапоги» дзяржаўным сьцягам?

**Лявон КАЛЯДЗІНСКІ,**
**ст. навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі**

# Па могілках прайшліся вандалы...

**Старыя могілкі, якія знаходзяцца на Ружанскай вуліцы ў Слоніме, добра вядомыя мясцовым жыхарам. У многіх тут пахаваныя сваякі і блізкія.**

Надмагільныя надпісы сьведчаць, што нябожчыкаў хаваюць тут з канца XVIII-га і пачатку XIX-га ст. Апошні прытулак тут знайшлі і людзі даволі паважаныя ў свой час. Менавіта іхныя магілы спакусілі невядомых вандалаў. У пошуках каштоўных рэчаў зьлідні раскапалі магілу былога слонімскага павятовага каморніка М.Міхайлава, грамадзянскага інжынэра, тэхніка слонімскай казарменнай камісіі Г.Ваншаффе... Зьнявечаная таксама магіла ўдзельніка штурму Ізмаіла, Прагі, удзельніка вайны 1812 г. генэрала М.Лявіцкага. Ёсьць зьвесткі, што з магілы генэрала рабаўнікі ўзялі залатыя гузікі і залатыя штурмавыя знакі, ордэны Георгія 4 ступені і Станіслава 1 ступені, срэбныя і бронзавыя медалі, шаблю зь імянным надпісам.

Магілу генэрала Лявіцкага работнікі могілак прывялі ў належны стан, аднак астатнія магілы чамусьці засталіся раскапанымі.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

# Агінскі вяртаецца ў Слонім

**Славуты гетман Вялікага Княства Літоўскага, стваральнік Слонімскай капэлы і тэатра Міхал Казімер Агінскі вяртаецца ў Слонім... на этыкетцы гарэлачнай бутэлькі.**

Спэцыялісты Слонімскага віннага заводу распрацавалі новы моцны напой, якому далі назву «Агінскі». У хуткім часе тут пачнуць таксама выпускаць лікёр «Шчара», які будзе вырабляцца на соку журавінаў.

**Валодзя ЯНЧУК**

# Гарвыканкам супраць СНІДу

**Апошнім сваім рашэньнем Ваўкавыскі гарвыканкам стварыў пазаведамасны савет па барацьбе з вэнэрычнымі, рознымі заразнымі скуранымі захворваньнямі і СНІДам.**

У ягоны склад увайшлі мэдыцынскія, вэтэрынарныя работнікі, а таксама спэцыялісты міліцыі, адукацыі і камунальнай гаспадаркі, усяго — 12 чалавек. Узначаліў савет намесьнік старшыні выканкаму Цімафей Бязносік.

**В.В.**

# Каўбасы толькі па пашпарце

**У Ваўкавыску, як і ў іншых райцэнтрах Гарадзенскай вобласьці, зноў уведзены пашпартны рэжым для тых, «хто ласы на каўбасы».**

Без чырвонай кніжкі зь сярпом і молатам і мясцовай прапіскі ў чаргу за мяснымі прадуктамі лепш не станавіся — не прададуць. Усе гэтыя добра знаёмыя намаганьні па абароне спажывецкага рынку патрэбнага выніку не даюць, акрамя нярвовасьці і абурэньня і без таго змучаных жыхароў людзей.

**В.Я.**

# Начытаўшыся кніжак...

**Улады горада Сьветлагорска прыйшлі да высновы, што мясцовае насельніцтва страціла цікавасьць да кніжак.**

Таму кніжная крама па вуліцы Леніна, якая праіснавала больш за 30 гадоў, у хуткім часе зьменіць свой профіль. Кнігарня перададзена камэрцыйнаму прадпрыемству «Сувэнір», якое нібыта зьбіраецца наладзіць тут гандаль алкагольнымі напоямі.

Можна чакаць, што гэтую справу ўхваляць мясцовыя камуністы, бо пэўнае дачыненьне да яе мае старшыня Сьветлагорскага райвыканкаму таварыш А.Просіна, якую тут лічаць камуністкай №1. Некалі яна сакратарыла ў райкаме КПБ, пасьля — ў ПКБ, а цяпер зноў на пасадзе. А ейны муж, тым часам, кіруе «Сувэнірам» і рыхтуе сувэнір «самому читающему в мире народу», як любіла гаварыць таварыш Просіна. Такі вось «сямейны падрад»

**Барыс РАМАНОЎСКІ**

# Будзем рабіць «Форды»?

**У гарадзкі пасёлак Сасновы Бор Сьветлагорскага раёна на мінулым тыдні наведаліся прадстаўнікі амэрыканскай фірмы «Форд» у суправаджэньні высокапастаўленых чыноўнікаў беларускага ўраду.**

Амэрыканцы падшукваюць пляцоўку пад завод па выпуску аўтамабіляў «Форд». У Сасновым Бары ім паказалі аб'екты недабудаванага прадпрыемства «Сьветлагорсккармаш». Амэрыканцаў зацікавіла, што паблізу знаходзіцца Сьветлагорская электрастанцыя і Жлобінскі мэталюргічны завод.

Прабыўшы ў Сасновым Бары паўтары гадзіны, амэрыканцы зьехалі, паабяцаўшы праз некаторы час паведаміць сваё рашэньне.

**Барыс РАМАНОЎСКІ**

# Мэра Віцебска абараніў правакатар

**Мэр Віцебска В.Наўшаў пакрыўдзіўся на некаторых жыхароў горада, якія падчас фэстывалю «Славянскі базар-94" распаўсюджвалі пра яго, як ён лічыць, неаб'ектыўную і абразьлівую інфармацыю.**

Гаворка ідзе пра пікет, які наладзілі ў дзень адкрыцьця фэстывалю актывісты мясцовай рады БНФ на чале з Ул.Плешчанкам і Б.Хамайдам. Яны трымалі ў руках плякат з надпісам: «За прыхватызацыю і іншыя злачынствы савецкай улады месца В.Наўшава ў турме, а не на пасадзе кіраўніка горада».

Пабачыўшы гэта, В.Наўшаў неадкладна напісаў заяву ў міліцыю, каб яна «абараніла ягоны гонар і годнасьць». Міліцыянты спрабавалі разагнаць пікетоўцаў, аднак прымяніць сілу не наважыліся, бо гэта было б прамым парушэньнем закону. Тады яны паспрабавалі запалохаць пікетоўцаў складаньнем пратаколаў аб адміністратыўным правапарушэньні. Не падзейнічала. Міліцыя вырашыла зайсьці «збоку». Калі 26 ліпеня, у дзень закрыцьця фэстывалю, пікет узьнік зноў і міліцэйскім маёрам не ўдалося паладзіць зь пікетоўцамі, тады зьявіўся нейкі чалавек, які на вачох ахоўнікаў парадку кінуўся на плякат і разьдзёр яго, а пасьля спакойна адступіўся.

Спадары Плешчанка і Хамайда зьвярнуліся да шэфа абласной міліцыі, каб той прызначыў расьсьледаваньне гэтага інцыдэнту і знайшоў чалавека, які напаў на пікет.

Як заявіў карэспандэнту СВАБОДЫ адзін са сьведкаў, «гэта быў хутчэй за ўсё пераапрануты міліцыянт альбо падасланы ўладамі чалавек».

**М.Г.**

## Былы мэр Лунінца кінуўся ва ўцёкі?

**Як паведаміла газэта «Брестский курьер», былы мэр Лунінца Канстанцін Негрэй, супраць якога вядзецца крымінальная справа аб хабарніцтве, схаваўся ад сьледзтва.**

Мяркуюць, што цяпер падазроны знаходзіцца ў Краснадары.

СІМ

## Какарэка сказаў «ку-ку»

**Праз райцэнтар Дзятлава на вялікай хуткасьці ляцеў аўтамабіль заходняй маркі.**

На запатрабаваньне ДАІ машына не спынілася, міліцыянтам давялося даганяць яе 7 км. — аж да санаторыя «Радон». Там высьветлілася, што гэтак адважна (ды яшчэ і на падпітку) езьдзіць на службовым аўто генэральны дырэктар Аршанскага ільнокамбіната, дэпутат ВС Г.Какарэка. Паводзіў ён сябе «па-дэпутацку», таму міліцыі ўдалося ўсяго толькі дамагчыся, каб ён паставіў машыну на аўтастаянцы каля санаторыя.

Аднак гадзіны праз паўтары сп.Какарэка зноў сеў за руль. Выязджаючы са стаянкі, ён зачапіў машыну старшыні калгасу з Магілеўшчыны, які адпачывае ў «Радоне». Толькі тады міліцыі ўдалося скласьці адпаведны пратакол.

В.В.

## Касьцёл імкнецца пазбавіцца ад беларускіх ксяндзоў

**Калі папскі нунцы Габрыэль Мантагія ад'язджаў зь Беларусі, ён правёў развітальную імшу ў Гарадзенскім фарным касьцёле. У гэты час каталікі-беларусы перадалі яму ліст, дзе яны ўказвалі, што для гарадзенцаў ужо замала аднаго набажэнства ў тыдзень па-беларуску. Яны таксама жадаюць, каб дзеці ў нядзельнай школцы маглі вывучаць Катэхізм ня толькі па-польску, але таксама і на беларускай мове.**

Склаcьці гэты ліст дапамог айцец Анатоль, які праводзіў у фарным касьцёле імшу на беларускай мове. Адразу пасьля гэтага яго тэрмінова перавялі ў Наваградак. Гарачы прыхільнік беларускага слова ў касьцёле айцец Ігар зь Ліды нядаўна адпраўлены ў Ватыкан на 2-гадовую вучобу. Абодва маладыя ксяндзы працавалі з моладзьдзю і дзецьмі, несьлі да іх слова Божае на роднай мове. Самае прыкрае, што іх няма цяпер кім замяніць. Дарэчы сказаць, зусім нядаўна ў Лідзе ўтварылася грэка-каталіцкая абшчына і айцец Ігар правёў на беларускай мове першае набажэнства паводле ўніяцкага абраду.

Сёлета скончыў Гарадзенскую каталіцкую сэмінарыю айцец Віктар, які таксама ўмее чытаць казаньні па-беларуску. Аднак яго адразу адаслалі ў Маскву сакратаром да арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча. Некаторыя каталікі з прыкрасьцю успамінаюць, як самога Кандрусевіча выслалі з Горадні ў Маскву ў 1990 г. — «адразу, як толькі ён пачаў спрыяць беларускай мове ў касьцёлах». Ёсьць таксама зьвесткі, што некалькіх гарадзенскіх сэмінарыстаў, якія схіляліся да беларускамоўнай імшы, звольнілі з сэмінарыі.

Тымчасам з Польшчы паступаюць нязьдзяючы ксяндзы, якіх тут сустракаюць з абдымкамі. Днямі адзін ксёндз з Кракава праводзіў набажэнства ў гарадзенскім Брыгіцкім касьцёле. Ня гледзячы на сваё ж сьведчаньне, што касьцёл ня мае дачыненьня да палітыкі, аднак між іншага, ксёндз заклікаў парафіянаў дзякаваць Богу, што ў Горадні пасаджаны біскуп-паляк, і што ўсе тут могуць маліцца па-польску.

Занепакоеныя ўсімі гэтымі падзеямі прадстаўнікі беларускіх каталікоў зь Ліды і Горадні наведалі гарадзенскага біскупа Аляксандра Кашкевіча. Аднак у іх склалася ўражаньне, што ён толькі на словах наракае на недахоп ксяндзоў, якія ведаюць беларускую мову, а на самой справе робіць адваротнае.

Усё гэта вельмі нагадвае касьцельную палітыку ў перадваеннай Польшчы, калі беларускія ксяндзы ўвесь час перасьледаваліся. Розьніца толькі ў тым, што сёньня гэта робіцца ня ў польскай, а ў беларускай дзяржаве.

Сяргей МАКСІМОВІЧ

## Былы шэф КДБ зьвярнуўся ў суд

### А Казлоўскі тым часам нібыта даў „задні ход"

**Былы шэф КДБ Генадзь Лавіцкі падаў у народны суд Савецкага раёну г.Менска заяву ў абарону гонару і годнасьці.**

Ён абвінавачвае журналістаў «Народнай газэты», «Зьвязды», «Вечернего Минска», агенцтва «Белінфарм» у тым, што яны публікавалі і распаўсюджвалі зьвесткі, якія не адпавядалі сапраўднасьці і ганілі ягоны гонар і годнасьць.

Гаворка ідзе пра тое, што ў пэрыяд з 28 па 30 чэрвеня ў гэтых газэтах былі апублікаваныя артыкулы са спасылкаю на словы А.Лукашэнкі, каторы заяўляў, што Генадзь Лавіцкі даручыў начальнікам абласных КДБ сустрэцца са старшынямі абласных выбарчых камісіяў, каб дамовіцца накошт сумесных дзеяньняў у другім туры галасаваньня. У заяве сп.Лавіцкага прыводзіцца таксама цытата з эксклюзыўнага інтэрвію сп.Лукашэнкі агенцтву БелаПАН, якое было апублікаванае ў «Народнай газэце» — «ні Лавіцкага, ні Казлоўскага я не пакіну на гэтых пасадах. Разам з тым мяне насьцярожвае інфармацыя, што гэтыя людзі пачалі чамаданамі вывозіць нарабаваныя каштоўнасьці».

Генадзь Лавіцкі

Аднак на сустрэчы з супрацоўнікамі КДБ 1 ліпеня Аляксандар Лукашэнка заявіў, што не рабіў такіх заяваў. Гэта вынікае са стэнаграмы сустрэчы, выпіска зь якой таксама накіраваная ў суд. У ёй, у прыватнасьці, прэзыдэнт сьцьвярджае, што «калі нам ад вас, у тым ліку і міліцыі, сталі вядомыя факты, і ў тым ліку і ад аховы урадавых будынкаў і работнікаў установаў аб тым, пра што я вам гаварыў — вывазе капіталаў, валюты, паездках і іншым, то не Лавіцкага папракаў, а я зьвярнуўся да генэрала Лавіцкага і старшыні мытнага камітэту, каб ён спыніў гэты разбой. Я проста зьвярнуўся да мытнікаў і КДБ — паставіць сьцяну на шляху гэтых дзеяньняў. І калі нейкая прэса гэта перабрала, я прашу разгледзець гэта такім чынам».

Будзем спадзявацца, што кропкі над «і» ў гэтай гісторыі паставіць суд. І ўсё ж, мала верагодна, каб адразу некалькі журналістаў з розных выданьняў і інфармацыйных агенцтваў практычна слова ў слова памылкова перадалі выступ А.Лукашэнкі. Можа быць «перабраў» сам Лукашэнка?

СІМ

*P.S. 28 ліпеня ў судзе Савецкага раёну адбылося першае пасяджаньне па гэтай справе, на якое прыйшоў Г.Лавіцкі са сваім адвакатам. Аднак не зьявіліся прадстаўнікі ад газэтаў, да якіх былы шэф КДБ мае прэтэнзіі. Наступнае судовае пасяджаньне прызначана на 21 верасьня.*

### Казлоўскі прэтэнзіяў ня мае?

У судзе Савецкага раёну знаходзіцца таксама заява былога міністра Паўла Казлоўскага з прэтэнзіямі да А.Лукашэнкі, які ў час перадвыбарчай кампаніі абвінавачваў генэрала ў карупцыі.

П.Казлоўскі заяўляў, што ён будзе судзіцца з Лукашэнкам нават калі той стане прэзыдэнтам. Аднак ёсьць зьвесткі, нібыта цяпер экс-міністар ужо ня мае жаданьня судзіцца. Як паведаміла агенцтва СІМ (са спасылкай на прэзыдэнцкага прэс-сакратара Ядранцава) Лукашэнка меў размову з Казлоўскім, падчас якой генэрал заявіў, што прэтэнзіяў да Лукашэнкі ў яго няма.

Карэспандэнту СВАБОДЫ не ўдалося спраўдзіць у П.Казлоўскага гэтую інфармацыю, бо апошнія два тыдні адшукаць яго было немагчыма, кажуць, што ён зьехаў у адпачынак.

М.Г.

Павел Казлоўскі

### ПОШТА

Рэдакцыі газэты СВАБОДА

*У газэце СВАБОДА за 5 ліпеня г.г. зьявіўся допіс карэспандэнта Я.Грэчыца «Біскуп Сьвёнтак выставіў рахунак».*

*Нас зьдзіўляе і засмучае, што шаноўная газэта дазваляе сабе зьмяшчаць абсалютна беспадстаўныя і нічым не абгрунтаваныя заявы сваіх карэспандэнтаў.*

*Мусім афіцыйна і абсалютна адназначна заявіць: ніколі і нікому ніякіх «рахункаў» арцыбіскуп Казімер Сьвёнтак мітрапаліт Менска-Магілёўскі не выстаўляў і выстаўляць не зьбіраецца.*

*Што ж датычыць унутраных справаў і патрэбаў Касьцёлу на Беларусі, то, мяркуем, гэта ў кампэтэнцыі менавіта Яго Экселенцыі Казімера Сьвёнтака і самога Касьцёлу, але ні ў якім разе не шаноўнага спадара Грэчыца.*

*З павагаю*

*Управа Менска-Магілёўскай мітраполіі рыма-каталіцкага Касьцёлу на Беларусі*

Арцыбіскуп, Мітрапаліт Менска-Магілёўскі Казімер СЬВЁНТАК

***Ад рэдакцыі:*** **Нагадаем, што ў 10-радковай публікацыі, да якой выказвае прэтэнзіі арцыбіскуп, паведамлялася, што беларускі ўрад зьбіраецца нарэшце афіцыйна прызнаць арцыбіскупа Сьвёнтака. А ён у сваю чаргу (цытуем): «запрапанаваў аплаціць «рахунак» за доўгае чаканьне прызнаньня — запрасіць на Беларусь яшчэ пару дзясяткаў польскіх ксяндзоў». І ўсё.**

**Слова «рахунак» было адмыслова ўзятае ў двукосьсе, таму ня трэба разумець яго літаральна. Між тым, сам факт пра запрашэньне польскіх ксяндзоў арцыбіскуп не адмаўляе. Дык у чым праблема? Газэты дзеля таго і выходзяць, каб паведамляць інфармацыю.**

## У Валожыне цяпер плюралізм

**На Валожыншчыне, якая да 2-й сусьветнай вайны была пераважна каталіцкай, цяпер ужо няма «дамінуючай» канфэсіі.**

Напрыклад, у мястэчку Ракаў, за 2 км. ад якога ў 1939 г. праходзіла мяжа з БССР, баптысты зьбіраюцца пабудаваць малельны дом «Божая ласка». А ў Івянцы на грошы вернікаў закладаецца праваслаўны храм. Ён будзе пабудаваны на цэнтральным пляцы, акурат там, дзе раней і стаяла праваслаўная царква.

Я.АЛЯКСЕЙКА

## На Бога спадзявайся...

**Каб уратавацца ад сёньняшняй сьпякоты, вернікі Слонімшчыны вырашылі зьвярнуцца да Бога і арганізавалі на мінулым тыдні хрыстовы паход у Жыровіцкім манастыры.**

І праўда: наступны дзень крыху пакрапала, але дажджу хапіла толькі пыл прыбіць.

Тым часам, каб зьнізіць пажаранебясьпечную сытуацыю, мясцовыя ўлады забаранілі насельніцтву наведваць навакольныя лясы. А для падтрымкі баяздольнасьці пажарных службаў, вырашылі, што кожны працоўны слонімец павінен ахвяраваць па 5 тыс. рублёў.

Валодзя ЯНЧУК

## Швайцарцы пахвалілі Дубко

**Самалюбства Аляксандра Дубко, які пацярпеў фіяска на прэзыдэнцкіх выбарах, крыху пацешылі швайцарцы.**

У калгасе «Прагрэс» быў праведзены сэмінар швайцарскай фірмы «Сандос»,якая спэцыялізуецца на вытворчасьці лекаў і хімічных прэпаратаў для сельскай гаспадаркі. Пры дапамозе хімічнай апрацоўкі ў «Прагрэсе» атрымліваюць ураджаі як у Канадзе — па 50 і нават па 70 цэнтнэраў збожжа з гэктару. Прадстаўнік швайцарскай фірмы пахваліў А.Дубко і паабяцаў выканаць усе ягоныя заяўкі на прадукцыю «Сандос», якая спрые высокім ураджаям.

В.В.

## Дырэктыўная тэлеграма

**Яшчэ да прыняцьця прэзыдэнцкай прысягі А.Лукашэнка, як вядома, разаслаў ва ўсе выканкамы дырэктыўную тэлеграму. У андропаўскім стылі ён паставіў задачу ўзьняць дысцыпліну і адказнасьць на падведамасных тэрыторыях і ў падпарадкаваных арганізацыях.**

У выканкамах ужо пачалі складаць плян мерапрыемстваў, згодна якога давядзецца даваць справаздачу кантрольным органам, як тое заўсёды рабілася раней.

У Гарадзенскім райвыканкаме, напрыклад з гатоўнасьцяй адгукнуліся на прэзыдэнцкую тэлеграму. Яшчэ зусім нядаўна старшыня выканкаму сп.Р.Алезаровіч настаўляў свой апарат, што трэба любой цаной выбраць у прэзыдэнты Кебіча, бо толькі ён, маўляў, здолее кіраваць дзяржавай і вывесьці яе з крызысу. І амаль усе зь ім моўчкі згаджаліся. Цяпер жа (на абмеркаваньні тэлеграмы) ужо было адзначана, што «безадказныя крокі, зробленыя ў апошні час урадам, рэзка пагоршылі становішча спраў у народнай гаспадарцы, дэзарганізавалі сфэру кіраваньня і негатыўна адбіліся на становішчы выканаўчай, вытворчай ды фінансавай дысцыпліны».

В.В.

## Кадры вырашаюць усё

**Новы рэктар Гарадзенскага ўнівэрсітэту імя Янкі Купалы Л.Ківач займае пасаду толькі паўгода.**

Спачатку ён зьмяніў усіх былых прарэктараў, а нядаўна — восем дэканаў зь дзесяці факультэтаў.

П.А.

# „Мітрапаліт Філарэт павінен адбыць 50 дзён у манастыры“

Такі «прысуд» вынес айцец Іосіф

**Праваслаўная царква у Касьцюкоўцы, што паблізу Гомеля, не падначальваецца ні Мітрапаліту Філарэту, ні Патрыярху Алексію II, яна належыць да Аўтаномнага Сьвята-Пакроўскага прыходу замежнай Расейскай праваслаўнай царквы.**

Настаяцель царквы, айцец Іосіф, скончыў Менскую духоўную сэмінарыю, пасьля вучыўся ў Маскоўскай акадэміі. Але праз некаторы час вымушаны быў напісаць заяву і пакінуць сьцены акадэміі, бо «атэістычныя работнікі адкрыта выкарыстоўвалі акадэмію для распаўсюджваньня атэістычных ідэяў за мяжу праз царкоўных дзеячоў. Выхаваньне ў акадэміі развівала лісьлівасьць і срэбралюбства, а сам дух вернасьці свайму доўгу быў страчаны».

Айцец Іосіф вярнуўся на Беларусь і ў 1957 годзе быў прызначаны ў Хойнікі настаяцелем Сьвята-Пакроўскага малельнага дому. Вернікі паставіліся да яго зь вялікай павагаю і любоўю, у царкву стала прыходзіць больш людзей, што безумоўна, не спадабалася камуністычным уладам. Пачалося хаджэньне па пакутах айца Іосіфа. Яго арыштоўвалі то за нявыплату падатку, то за тунеядзтва. Адзінай формай пратэсту была галадоўка. Некалькі гадоў сьвятару прыйшлося хавацца ў падпольлі. Потым знайшоўся іншы спосаб ізаляцыі сьвятара, які адмовіўся ад супрацоўніцтва з камуністычнымі ўладамі. На 15 гадоў яго «асудзілі» ў псыхіятрычную лячэбніцу. У гэты час пра айца Іосіфа даведалася замежная Расейская праваслаўная царква і пачала дасылаць яму духоўную літаратуру.

А вось зь Менскай эпархіяльнай управы сюды, на імя начальніка спэцпсыхлячэбніцы МУС БССР, прыйшла папера іншага кшталту: «Менская эпархіяльная ўправа тлумачыць, што грамадзянін Рынкевіч Іосіф Васільевіч, 1925 года нараджэньня, у мінулым сьвятар горада Хойнікі Гомельскай вобласьці, за сыстэматычныя парушэньні царкоўнай дысцыпліны, у сілу ягонай хваробы, быў пазбаўлены сьвятарскага сану і зараз зьяўляецца міранінам.

Права на атрыманьне царкоўнай пэнсіі як сьвятар ён ня мае, але, улічваючы безвыходнасьць ягонага становішча і адсутнасьць якіх-небудзь сродкаў для існаваньня, паводле распараджэньня мітрапаліта Філарэта, Менская эпархіяльная ўправа будзе выплочваць яму штомесячную дапамогу ў памеры 60 рублёў пры выпісцы яго з псыхбальніцы».

Як уладам, так і Маскоўскаму патрыярхату было выгадна пазбавіцца ад унутранага дысыдэнта айца Іосіфа. А гэтая цыдулка, напісаная ў 1987 годзе зь Менскае эпархіяльнае ўправы выглядае зараз нікчэмнай і ўбогай.

Сьвята-Пакроўскі прыход айца Іосіфа перанесены зараз з Хойнікаў у Касьцюкоўку. Прыхаджане купілі тут дом і прыбудавалі да яго царкву. Многія з прыхаджанаў прыязджаюць сюды на службы зь Пінска, Гомеля і іншых гарадоў, многія ведаюць айца Іосіфа даўно. Для іх ён сапраўды сьвятар, які не скарачае службаў у царкве, ня хрысьціць і не вянчае скопам, прычашчае толькі пасьля строгага захаваньня пастоў, не пускае ў царкву «крашаных». Але самае галоўнае, што ён зьяўляецца духоўным настаўнікам для вернікаў.

Аднак лёс пасылае прыходу новыя выпрабаваньні. Папрасіўся да яго сьвятар Андрэй Семяняка зь Летувы. Прыхаджане даверыліся маладому «пастару». Праз некаторы час ён перайшоў да замежнай Расейскай праваслаўнай царквы і стаў благачынным. Але зайздрасьць і карыстагалюбства прывялі яго на іншы шлях. Сьвятар Андрэй Семяняка пачаў прад'яўляць прэтэнзіі на прыходзкі дом, як на прыватную ўласнасьць. Прыхаджане не пусьцілі яго ў царкву, а вось з дому пакуль што не змаглі выселіць. Пачаўся судовы працэс. Андрэй Семяняка даказвае, што ён купіў дом на свае ўласныя грошы, ды ня ведаў, што ўсе ахвяраваньні фіксаваліся ў спэцыяльным лісьце. Людзі аддавалі свае пэнсіі, як яны расказваюць «адрывалі ад людзей» толькі зрабіць унёсак у добрую справу. Адна жанчына распавяла на судзе, як яна прадала сваю новую пуховую хустку, каб знайсьці грошы на царкву. Былы гаспадар дома таксама сьведчыць, што дом быў прададзены за 120 тысяч рублёў, якія ён атрымаў ад прыхаджанаў. Зараз сьвятар Андрэй ня мае ніякага дачыненьня да царквы Сьвята-Пакроўскага прыходу, хоць вальготна жыве за яе сцяною ў доме. «Блудны сын» Андрэй Семяняка вярнуўся да Маскоўскага патрыярхату і распачаў службу ў іншым доме ў Касьцюкоўцы.

Памкненьні сьвятара Андрэя Семянякі на прыходзкі дом ня маюць ніякіх законных падставаў. Аднак камусьці выгадна, каб судовы працэс разгарнуўся, а сьвятар Семяняка зараз мае добрую «духоўную» падтрымку ад Маскоўскага патрыярхату. У чарговы раз суд адклаў разгляд справы з-за адсутнасьці новых доказ.

Пратаірэй Іосіф Рынкевіч вымушаны быў напісаць сваё духоўнае «Вызначэньне». У ім гаворыцца, што епіскап Гомельскі і Жлобінскі Арыстарх «пасьля пакаяньня перад абразом Збавіцеля і Божай Маці ў грахах сергіянства і папрасіўшы прабачэньня ў народа за тое, што ўцягнуў у гэты грэх народ, за падтрымку Семянякі А.В. у прысваеньні ім маёмасьці, павінны адбыць пакараньне — 50 дзён у манастыры. Вярнуўшыся з манастыра, ён мусіць прыняць ад прадстаўніка дзяржаўнай улады храм і дом Сьвята-Пакроўскага праваслаўнага прыходу ў сане сьвятара». Сьвята-Пакроўскі ж прыход павінен перайсьці ў Петрапаўлаўскі сабор горада Гомеля.

«Мітрапаліт Філарэт павінны пасьля пакаяньня перад абразом Збавіцеля і Божай Маці ў грахах сергіянства адбыць пакараньне — 50 дзён у манастыры» — за адабрэньне незаконнага пазбаўленьня айца Іосіфа сьвятарскага сану і за паклёп у той даведцы на імя начальніка псыхбальніцы. Затым мітрапаліт Філарэт «пераводзіцца ў Гомель з тытулам архіепіскапа на месцы былога епіскапа Арыстарха. У Менск Экзархам усяе Беларусі пераводзіцца зь Нью-Ёрку мітрапаліт Віталій, першаіерарх Расейскай Праваслаўнай царквы за мяжой».

Што да Маскоўскага Патрыярха Алексія II, дык «пасьля пакаяньня ў сергіянстве перад абразом Збавіцеля і Божай Маці і папрасіўшы прабачэньня ў народа за тое, што зацягнуў яго ў гэты зман, ідзе на 50 дзён у манастыр за паклеп на замежную Расейскую праваслаўную царкву. Адбыўшы пакараньне ў манастыры Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II вяртаецца на сваё месца».

А «чада» Маскоўскага Патрыярхату, сьвятар Андрэй Семяняка мусіць пакінуць сьвятарскую дзейнасьць і пайсьці «ў калгас простым грамадзянінам і адпрацаваць доўг дзяржаве за вучобу на агранома». Акрамя таго, яму трэба аплаціць усе выдаткі на судовыя паслугі і за сьпілены ім дрэвы ў прыхадзкім двары.

Алесь ДАШЧЫНСКІ

## Замест буракоў — жэньшэнь

**Сёлета ў Гарадзенскім сельскагасінстытуце ўпершыню пачынаюць прыём студэнтаў, якія стануць спэцыялістамі па вырошчваньні прыправаў і лекавых расьлінаў.**

Гэта абумоўлена ўсё большаю папулярнасьцю зёлкавых прэпаратаў, а таксама дэфіцытам замежных мэдыкамэнтаў, за якія трэба плаціць валютай. Карацей, жэньшэнь ды іншую экзотыку будзем вырошчваць самі.

П.А.

## Шпіталь у кляштары і ўгодкі сьвятога

**Сёлета спаўняюцца 100-я ўгодкі Максымільяна Кольбэ, які загінуў у канцлягеры Асьвенцым.**

Гарадзенскія ўлады дазволілі біскупскай курыі 1-га кастрычніка правесьці з гэтае нагоды рэлігійнае сьвята. Урачыстасьці адбудуцца ў Францішканскім касьцёле, дзе ў 1922—27 гадох Кольбэ служыў сьвятаром.

Біскуп Аляксандар Кашкевіч дзеля гэтага таксама зьвярнуўся да ўладаў з просьбаю вярнуць касьцёлу былы Францішканскі кляштар, дзе сёньня месьціцца шпіталь. На паседжаньні гарвыканкаму вырашана перадаць да 1-га верасьня частку кляштарных памяшканьняў (чатыры пакоі з калідорам) касьцёлу.

С.А.

## Генэралы Паўлоўскія

**Камандзер гарадзенскай 6-й механізаванай брыгады Аляксандар Паўлоўскі склаў свае абавязкі.**

Ён ад'язджае на 2 гады ў вайсковую акадэмію Масквы. Пасьля вучобы ён зможа разьлічваць на пагоны генэрал-лейтэнанта. Генэралам Паўлоўскі стаў менш за год таму.

Дарэчы, ягоны бацька таксама генэрал, а дзед за царом займаў у Горадні пасаду стацкага саветніка. Цікава яшчэ, што ў горадзе існуе вуліца генэрала Паўлоўскага, які тут нарадзіўся. Але яны не сваякі зь сёньняшнім генэралам.

С.А.

# Уніяты не захацелі трапляць у міліцэйскія сьпісы

**У вёсцы Празарокі Глыбоцкага раёну мясцовая рыма-каталіцкая парафія і Саюз беларускай каталіцкай моладзі вырашылі наладзіць 10-дзённы летнік для маладых уніятаў. Аднак мясцовыя ўлады ўсяляк спрабуюць гэтаму перашкодзіць.**

Летнік ладзіцца з блаславеньня апостальскага візітатара для беларускіх грэка-каталікоў айца Сяргея Гаяка. Ён узгадніў гэтую ідэю з саўмінаўскім кіраўніком рэлігійнымі справамі сп.Жыльскім, які запэўніў айца Сяргея, што з боку ўладаў ня будзе ніякіх перашкодаў.

Аднак старшыня мясцовага сельскага Савету Валеры Кандзерскі, даведаўшыся, што ў вёску прыязджае 30 маладых уніятаў, пачаў падымаць на ногі АВІР, пашпартны стол, міліцыю, КДБ...

22 ліпеня у Празарокі прыехаў участковы міліцыянт Анатоль Міхайлаў, які запатрабаваў, каб арганізатары далі сьпіс усіх удзельнікаў летніка. Калі сьпісу ня будзе, дык ён паабяцаў, што сюды прыедзе пракурор ды пакарае ўсіх за парушэньне пашпартнага рэжыму. Маладыя уніяты, аднак, не зьбіраюцца рэгістравацца, бо ня хочуць афішаваць сваю канфэсійную прыналежнасьць — баяцца рэпрэсыяў з боку рэктаратаў ды дэканатаў (усе яны пераважна студэнты).

Ігар ІВАНОЎ

# Прэзыдэнт абяцае „надзвычайныя меры“

Аляксандар Лукашэнка абвесьціў, што зь яголым абраньнем на пасаду прэзыдэнта «адкрываецца новая старонка ў гісторыі беларускага народа». Больш за тое, прэзыдэнт, здаецца, перакананы, што ягонае імя будзе напісанае на гэтай «старонцы» залатымі літарамі. Дай Бог! Аднак пакуль Лукашэнка можа прэтэндаваць хіба што на радок у кнізе рэкордаў Гінэса — наш прэзыдэнт здолеў набраць 80% галасоў выбаршчыкаў на чыстым папулізьме, што рэдка каму ўдавалася.

### Шостая праграма «рэфарматараў»

Адразу пасьля выбараў Лукашэнка крыху расчараваў публіку — цана на гарэлку ўзрасла ўтрая і яе ўсё адно няма ў крамах. Таму мужыкам даводзіцца піць за здароўе свайго прэзыдэнта імпартовую. Падобна на тое, што ў хуткім часе зьнікне з прылаўкаў і айчынная «закуска». Ужо цяпер у Менску праблема купіць нават кепскую вараную каўбасу і курыныя яйкі. Гэта пры тым, што вялікая частка гараджанаў зьехала ў вёскі і харчуецца пераважна з уласнай гаспадаркі.

Што зьбіраецца рабіць прэзыдэнт? Ягоны прэм'ер М.Чыгір шчыра заяўляе: «Альтэрнатывы падвышэньню цэнаў няма». Прабачце, але Вячаслаў Францавіч рабіў гэта зь лепшым посьпехам. У нашай краіне ён найлепшы знаўца сацыялістычных мэтадаў гаспадараньня. Калі вы зьбіраецеся ісьці тым жа шляхам, то прэм'ерам трэба запрасіць Кебіча. Аднак і яму цяпер наўрад ці ўдалося б зьвесьці канцы з канцамі, бо дзяржаўная эканоміка можа даць сёньня роўна столькі, колькі яна дае.

Ці наважыцца Лукашэнка пайсьці іншым шляхам — распачаць радыкальныя рынкавыя рэформы? У дакладзе на сэсіі прэзыдэнт заявіў, што распрацоўваецца «праграма надзвычайных мер», якую ён зьбіраецца прапанаваць Вярхоўнаму Савету пасьля перамоваў у Маскве. Новую праграму, паводле нашых зьвестак, рыхтуюць усё тыя ж Мясьнікові і Лінг, для якіх гэта будзе ўжо шостая праграма. Пяць першых пасьпяхова «ажыцьцявілі» пры Кебічу. Якой будзе шостая — пабачым. Магчыма, што самае радыкальнае ў ёй будзе скасаваньне датацыяў вытворцам і пераадрасоўка часткі гэтых сродкаў малазабясьпечаным людзям у выглядзе штомесячных грашовых дапамогаў. Астатнія праблемы прэзыдэнт відаць будзе спрабаваць вырашыць з дапамогаю загадных тэлеграмаў на кожную ферму.

### Апазыцыя вырашыла за Кабінэт міністраў не галасаваць, аднак Сянько і Ягорава падтрымала

Лукашэнка зьвязаны ня толькі папулісцкімі перадвыбарчымі абяцаньнямі, але і абмежаванымі інтэлектуальнымі магчымасьцямі сваёй каманды. Самым «крутым» рэфарматарам і знаўцам рынкавай эканомікі ў ягоным Кабінэце міністраў лічыцца М.Мясьніковіч. Ва ўрадзе Кебіча ён таксама быў «адказным за рэформы». Вячаслаў Францавіч цаніў свайго першага намесьніка. Напачатку яны было сунуліся ў ваду, але бачаць што глыбока, а плаваць ня могуць... Давялося паклікаць на дапамогу сакратара ЦК КПБ С.Лінга, які добра ведаў, як кіраваць цэнамі, дзяржаўнымі заказамі і г.д. Цяпер вось Лукашэнка паклікаў яшчэ Ул.Гаркуна — старшыню аграрнай камісіі ВС, які, здаецца, паставіў сабе за мэту жыцьця ўратаваць калгасны лад.

Пра новага прэм'ера М.Чыгіра сказаць нешта пэўнае цяжка. Многія лічаць яго проста дэкаратыўнаю фігураю. Відаць, яго давялося прызначыць, бо нічога лепшага не знайшлося. Кажуць таксама, што гэтаю пасадаю Лукашэнка аддзячыў былому шэфу «Аграпрамбанку» за фінансавую падтрымку ў перадвыбарчай кампаніі. Магчыма Чыгір разумее нешта ў фінансах, аднак ня больш, чым любы іншы кіраўнік банку. Сваім выступам на сэсіі ён пакінуў пра сябе досыць бляклае ўражаньне. Я міжволі параўнаў яго зь ценявым прэ'ерам БНФ Уладзімерам Заблоцкім, і мне ў чарговы раз давялося пашкадаваць сваю краіну. Цалкам магчыма, што «надзвычайныя меры» могуць скончыцца карткамі на харчаваньне.



Апазыцыя БНФ ня ўдзельнічала ў галасаваньні за новы Кабінэт міністраў. Вырашана было падтрымаць толькі міністра замежных справаў Уладзімера Сянько, а таксама шэфа КДБ Уладзімера Ягорава. Зь Сянько праблемаў ня было — ён набраў нават больш галасоў (269), чым прэм'ер-міністар (266). Тым часам за Ягорава прагаласавала ўсяго 180 дэпутатаў, без галасоў Апазыцыі ён ні ў якім разе не прайшоў бы. Як заявіў адзін з дэпутатаў: «Ягораў менш-больш сумленны чалавек, аднак няма сумневу, што КДБ па-ранейшаму будзе працаваць супраць апазыцыйных сілаў на карысьць цяпер ужо новага рэжыму».

### Займайце чаргу — пасадаў шмат

Шмат што, аднак, будзе залежаць ад апарату прэзыдэнта, які ўзначальвае 40-гадовы дэпутат Леанід Сініцын. Апошнія чатыры гады ён працаваў намесьнікам старшыні Камісіі ВС па архітэктуры і будаўніцтве, а раней быў галоўным інжынэрам магілёўскага трэста «Лаўсанбуд». Некаторыя апазыцыянэры характарызуюць яго як «прыстойнага чалавека без камунізму ў галаве», іншыя, аднак, называюць «тыпам бяз прынцыпаў». Кажуць, што ён ужо даволі багаты чалавек.

Гэтак сама як і другі паплечнік Лукашэнкі — 40-гадовы дэпутат Іван Ціцянкоў, былы першы сакратар Краснапольскага райкаму КПБ Магілёўскай вобласьці. Адразу пасьля абраньня ў Вярхоўны Савет ён уладкаваўся ў Менску на пасадзе сакратара Камісіі па праблемах Чарнобыля. Разам са сваім калегам Аляксандрам Абуховым, які быў у гэтай камісіі намесьнікам старшыні, яны стварылі камэрцыйна-дабрачынны чарнобыльскі фонд і, дзякуючы службовым сувязям, вельмі хутка зрабілі вялікія грошы, пераважна на нафце. Паводле некаторых зьвестак «дабрачынцы» таксама нешта атрымалі з былой савецкай вайсковай нерухомасьці на возеры Балатон у Вугоршчыне. Іван Ціцянкоў будзе цяпер займаць пасаду кіраўніка справамі (абслуга, транспарт, гаспадарка, санаторыі і г.д.)

У Лукашэнкі будзе таксама свой «данілаў» — 36-гадовы дэпутат Віктар Шэйман, падпалкоўнік дэсантных войскаў, які ваяваў у Аўганістане. Ён будзе дарадцам прэзыдэнта па абароне і бясьпецы. Магчыма, што дарадцам Лукашэнкі стане таксама былы шэф КДБ Эдуард Шыркоўскі.

Аднак пакуль што большыня пасадаў у прэзыдэнта — вакантныя. Займайце чаргу.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**

# Як Вячаслаў Кебіч стаў ахвяраю любові да Расеі

**«Інаўгурацыя» прэзыдэнта А.Лукашэнкі, якая адбылася 20 ліпеня на спэцыяльным паседжаньні сэсіі ВС, запомнілася карэспандэнту СВАБОДЫ двума прыкрымі выпадкамі, якія, аднак, мала хто заўважыў.**

Калі за тры хвіліны да пачатку сэсіі ў залю ўвайшоў Вячаслаў Кебіч і накіраваўся да свайго звыклага прэм'ерскага месца ва ўрадавым сэктары, нечакана для сябе ён пабачыў, што яго тут зусім не чакаюць — у крэсьле Вячаслава Францавіча сядзеў нейкі чарнявы чалавек з вусамі. Пабачыўшы свайго знаёмца, расейскага віцэ-прэм'ера Аляксандра Шохіна, Кебіч нарэшце зразумеў, хто гэтак непачціва паставіўся да яго. Чалавек з вусамі (першы сакратар расейскага пасольства ў Менску Ўладзімер Каблякоў) таксама не адразу ўцяміў, што ад яго хоча Вячаслаў Францавіч. Месца, аднак, давялося вызваліць.

Пазьней, у кулуарах, сакратар пасольства сам абураўся: аказваецца, гэтае месца было вызначана яму нашым МЗС. Першыя два шэрагі адводзіліся расейскай дэлегацыі, за імі — польская, летувіская і іншыя. Так што, Вячаслаў Францавіч, дарма вы крыўдуеце на «старэйшых братоў». Гэта ваш МЗС даў маху.

Другі выпадак зноў жа датычыць пратаколу. Парушыўшы элемэнтарныя нормы, Мечыслаў Грыб першым даў слова для віншаваньня віцэ-прэм'еру Расеі А.Шохіну. Тым часам на ўрачыстым паседжаньні прысутнічалі кіраўнікі двух парляментаў — маршалак польскага сэйму Ю.Алексы і старшыня сэйму Летувы Ч.Юршэнас. Згодна міжнароднага пратаколу, менавіта яны павінны былі першымі атрымаць слова. Хацелі таго ці не хацелі нашыя кіраўнікі, аднак яны ў чарговы раз засьведчылі адсутнасьць элемэнтарнай палітычнай культуры. Гэта якраз той выпадак, калі «дружба народаў» адбівае апошні розум.

**Іван СІДАР**



**На здымку: Вячаслаў Кебіч спрабуе вызваліць сабе месца ў залі Вярхоўнага Савету.**

# Ці будзе Лукашэнка будаваць свой дом?

**Нашая краіна зноў на ростанях. Ніхто ня ведае, што зьбіраецца рабіць новая каманда — будаваць свой дом, разбудоўваць сваю Беларусь, ці ляпіць прыбудову да чужой, хай бы і «братавай» хаты.**

Зьмена палітычнага кіраўніцтва звычайна прыводзіць да пэўных (часам да значных) зьменаў у вонкавай палітыцы дзяржавы. Асабліва гэта тычыцца краінаў зь няўстойлівай, крызыснай эканомікай. Гэта натуральна — пошукі для паляпшэньня жыцьця вядуцца як праз аналіз сытуацыі ўнутры краіны, так і праз ацэнку ейнай дзейнасьці на міжнароднай арэне. Для Беларусі гэта асабліва важна, бо відавочна, што многія нашыя беды зьвязаныя зь невыгоднай, аднабаковай зьнешнепалітычнай арыентацыяй, якую ажыцьцяўляў папярэдні рэжым.

Цяжка прадказаць паводзіны А.Лукашэнкі, які зусім нядаўна заклікаў аднавіць СССР, а зараз зьяўляецца кіраўніком незалежнай дзяржавы. Напрыклад, як расцаніць ягоную прапанову: «Сабраца прадстаўнікам трох парляментаў — Расеі, Украіны і Беларусі — ў Белавескай пушчы і выпрацаваць мэханізм аднаўленьня краіны». А пазьней ён наагул запрапанаваў аб'ядначца з Расеяй, абгрунтоўваючы гэта тым, што ў Беларусі: «стаяць прадпрыемствы, склады заваленыя прадукцыяй: аўтамашынамі, сельгастэхнікай, лядоўнямі. Няўжо непатрэбны яны расіянам?» А з Масквы адказваюць: «Не нужны, любимый вы наш товарищ и брат А.Г.Лукашенко!.. В России есть все это! Полно! Своих машин продать не можем. И холодильники со всего мира манят себя купить! Если бы ваши были лучше и дешевле — покупали бы их...» (*ч. "Огонёк", №17—18, 1994*).

Заняўшы пасаду прэзыдэнта, А.Лукашэнка пачаў выказвацца больш асьцярожна. Аднак, зьвернем увагу на ягоны Кабінэт міністраў — зь 10-ці вышэйшых кіраўнікоў, зацьверджаных на мінулай сэсіі Вярхоўнага Савету, няма ніводнага, які б не працаваў у ЦК КПБ, Савеце Міністраў ці іншых структурах. Ці ж пажадаюць яны выпраўляць «набролёнае»? М.Мясьніковіч і С.Лінг у значнай ступені адказныя за палітыку разбурэньня дзяржавы, якую праводзіў папярэдні ўрад. Але гэтая адказнасьць пасьля прызначэньня іх на такія ж пасады ў новым урадзе пераходзіць ужо ў сфэру маралі. Лічу амаль неверагодным, улічваючы адсутнасьць праграмы рэформаў у каманды прэзыдэнта, што вышэйназваныя кіраўнікі пачнуць рабіць нешта процілеглае таму, што рабілі раней, прызнаючы тым самым шкоднасьць сваіх ранейшых дзеяньняў. (А як па іншаму расцаніць палітыку, якая давяла краіну да краху?) А калі людзей узялі ў каманду, то ім давяраюць, значыць, ейнаму кіраўніку падыходзяць іхныя погляды і дзеяньні. І яны маючы магчымасьць яшчэ раз даказаць «слушнасьць» сваіх дзеяньняў. Вельмі шкада, але ў такім выпадку народная ацэнка ізноў разыдзецца з урадавай.

Дзе ў сьвеце вы бачылі, каб памылкі, пралікі ў дзяржаўным будаўніцтве «даручалі выпраўляць» тым жа, хто іх нарабіў?

Той факт, што на пасаду міністра замежных справаў прызначаны прафэсійны дыплямат Уладзімер Сянько, нібыта абнадзейвае. Аднак гэта пакуль нічога не азначае, бо вызначаць асноўныя накірункі зьнешнепалітычнай дзейнасьці будзе прэзыдэнт. Ранейшыя заявы сп.Лукашэнкі наконт рублёвай зоны, калектыўнай бясьпекі і інш. сьведчаць пра ягоную зарыентаванасьць выключна на Ўсход. Зразумела, што імгненна пераарыентавацца ні прэзыдэнту, ні дзяржаве немагчыма, калі ўлічыць да таго ж «спадчыну» Кебіча ў выглядзе крэдытаў, абяцанкаў з аднаго боку і ўключэньне ў новую каманду некаторых «арганізатараў» гэтай спадчыны з другога. Але хаця б паспрабаваць па-іншаму паставіць акцэнты — задача абавязковая. І ня трэба, як некаторыя прапануюць, вызначаць адносіны Беларусі да Расеі. Нашыя стасункі з усходнім суседам адназначна павінны быць добрымі. Расея ёсьць гісторыяй дадзены нам вялікі сусед і суседзтва гэтае — назаўсёды. Безумоўна, дачыненьні з гэтай краінай мусяць быць сяброўскімі, але — адносіны дзяржавы зь дзяржаваю, а не калёніі з мэтраполіяй. Узаемавыгодныя эканамічныя, а пры неабходнасьці і палітычныя дачыненьні Беларусі з Расеяй паслужаць толькі на карысьць нашым народам. Любыя ж саступкі (афармленыя нават праз структуры СНД) пойдуць на карысьць толькі мацнейшага.

Зьвернем увагу на вайсковыя сувязі Беларусі з Расеяй, таму што гэты бок, на маю думку, мае найбольшую пагрозу беларускай незалежнасьці. Згадайце, з чаго пачалося змаганьне за так званае «аб'яднаньне славянскіх народаў». Менавіта з вайсковых пытаньняў. Якраз тады была прапанавана пакупная цана Беларусі, і ўрад Кебіча пайшоў на гэта. Але зьдзелка яшчэ не завершана. Пытаньне ў тым, ці пойдзе новы рэжым на ейнае завяршэньне. Па некаторых прыкметах — здаецца пайшоў...

Многія ня бачаць нічога страшнага ў тым, што мы ўваходзім у так званы вайсковы альянс СНД, а на самой справе — у зону мілітарысцкага ўплыву Расеі. Генэралы сьцьвярджаюць, нібыта толькі вайсковы хаўрус з Масквою абароніць нас у выпадку небясьпекі. Аднак у сапраўднасьці сытуацыя складваецца так, што вайсковы саюз з Расеяй сёньня самым сур'ёзным чынам падрывае нашу бясьпеку.

Мя прыляпіліся да вялізарнай ядравай дзяржавы, якая цяпер сама няпэўна адчувае сябе ў сьвеце. Расея яшчэ доўгі час будзе заставацца аб'ектам вайсковых контрразьлікаў Эўропы і ЗША. А гэта значыць, што дзяржавы, якія знаходзяцца на вайсковай арбіце Расеі, абавязкова будуць фігураваць у ваенных планах Захаду. Вось чаму і Беларусь як сатэліт будзе пастаянна знаходзіцца ў зоне рызыкі. А калі, ня дай Божа, нешта здарыцца ў нашага суседа, які разьдзіраецца нутранымі супярэчнасьцямі, мы можам стаць аб'ектам прэвэнтыўных дзеяньняў. Асобна хачу зьвярнуць увагу на Дамову аб калектыўнай бясьпецы і магчымыя для Беларусі наступствы, зьвязаныя зь ейнай рэалізацыяй. Трэба цьвёрда ўсьвядоміць, што Беларусь, як і любая іншая краіна-ўдзельніца, мусіць выконваць усе абавязкі, прадугледжаныя дамовай. Любыя палпраўкі павінны зацьвярджацца ўсімі краінамі-ўдзельніцамі. Таму абяцанкі нашага вайсковага кіраўніцтва (як старога так і новага) не давесьці беларусаў да ўдзелу ў магчымых вайсковых канфліктах ёсьць ні што іншае, як самападман. Няма сумневу, што ў нейкі час «ч» Беларусь будзе змушаная выканаць Дамову ў поўным аб'ёме.

Больш за тое, вайсковая прывязка да Расеі ставарае небясьпеку ня толькі для палітычнай, але і эканамічнай самастойнасьці нашай дзяржавы. Арыентацыя на расейскія вайсковыя замовы — ня выйсьце з эканамічнага крызысу. Добра вядома, што ваенная прамысловасьць нідзе і ніколі не забясьпечвала стабільнае разьвіцьцё эканомікі. А ў нашым выпадку гэта прывядзе толькі да яшчэ большай эканамічнай залежнасьці і замарудзіць рэфармаваньне гаспадаркі.

Ці да гэтага імкнуўся беларускі народ, калі ўхваліў запісаны ў Дэклярацыі аб сувэрэнітэце бязьядравы статус нашай дзяржавы? Яшчэ тады, у часы СССР, Беларусь выказала жаданьне адарвацца ад мілітарысцкай махіны Савецкага Саюзу, спыніць расходаваньне велізарнай часткі нацыянальнага прыбытку на ваенныя прыгатаваньні, пераключыцца на мірную эканоміку. Няўжо цяпер павернем назад і будзем аплочваць ядравыя ды іншыя вайсковыя праграмы Расеі?

Ніякай карысьці мы ня маем і ад знаходжаньня на нашай тэрыторыі расейскіх войскаў (50 базаў з 30-цю тысячамі вайскоўцаў). Іхнае ўтрыманьне, паводле афіцыйных зьвестак, абыходзіцца нам штогод у 1,9 млрд. даляраў. Акрамя таго, расейская вайсковая прысутнасьць ператварае нас у мішэнь. Прэзыдэнт Лукашэнка пакуль ня хоча разьвітвацца з войскам. Папярэдне было ўзгоднена, што яно сыйдзе ў 1996 г. Аднак днямі чытаю ў прэсе: расейскі авіяполк у Зябраўцы застанецца ў нас «у гасцях» да 2000-га г.

Такім чынам, беглы аналіз сытуацыі дазваляе зь вялікай верагоднасьцю прагназаваць практычную нязьменнасьць у бліжэйшы час эканамічнага курсу ўнутры краіны (з магчымым узмацненьнем дзяржаўнага адміністраваньня і кантролю) і пэўную непрадказальнасьць у зьнешнепалітычнай дзейнасьці. Новае кіраўніцтва пакуль ня мае ні эканамічнай, ні палітычнай канцэпцыі разьвіцьця дзяржавы. Застаецца толькі спадзявацца, што ўсё гэта яшчэ будзе. І ня толькі канцэпцыя, але і Дзяржава. Бо навошта ж тады прэзыдэнт?

**Валянцін ГОЛУБЕЎ,**
**сакратар Камісіі па міжнародных справах і зьнешнеэканамічных сувязях Вярхоўнага Савету Беларусі**

## Бразаўскас прыслаў у Менск свайго чалавека

**Летува вырашыла падвысіць ранг свайго дыпляматычнага прадстаўніцтва ў Беларусі.**

Днямі ў Менск прыехаў Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Летувы Віктарас Баўбліс, прызначаны на гэтую пасаду прэзыдэнтам Бразаўскасам. Зараз ён прымае справы ў Часовага паверанага сп.Альфонсаса Аўгуліса, які ў хуткім часе вернецца ў Вільню.

Новы пасол да прызначэньня ў Менск працаваў ва ўрадзе Летувы, дзе адказваў за сувязі з прэсаю. А раней (1983—90 гг.) быў функцыянэрам кампартыі: інспэктар ЦК КПЛ, сакратар райкаму, першы сакратар Клайпэдскага гаркаму, загадчык арганізацыйнага аддзелу ЦК КПЛ.

У МЗС Летувы адмовіліся як-небудзь пракамэнтаваць гэткі выбар прэзыдэнта.

Віктарас Баўбліс пачне выконваць функцыі пасла толькі пасьля ўручэньня даверчых лістоў прэзыдэнту Беларусі. Гэта адбудзецца, як паведамілі нам у пратакольным аддзеле МЗС Беларусі, хутчэй за ўсё на гэтым тыдні.

**Я.КАМОЦКІ**

## 132 гады таму выйшаў першы нумар «Мужыцкай праўды»

Гэта была першая беларуская нелегальная і непадцэнзурная газэта-праклямацыя. Разам з Кастусём Каліноўскім ейны выпуск ажыцьцявілі Фэлікс Ражанскі, Валеры Ўрублеўскі і, паводле некаторых зьвестак, Станіслаў Сангін.

Кастусю Каліноўскаму было тады 24 гады. Ён меў дыплём кандыдата права, атрыманы ў Санкт-Пецярбургскім унівэрсытэце. Аднак у краіне бясправўя ён, як юрыст, нічым ня мог дапамагчы свайму народу. Каліноўскі заняўся палітыкай.

Аналізуючы вопыт папярэднікаў, найбольш рэальнае выйсьце Каліноўскі ўбачыў у стварэньні вольнага друкаванага слова, адрасаванага сялянам. Чаму ім? Да сярэдзіны XIX стагоддзя, беларусы, у ліку іншых народаў Эўропы, склаліся як нацыя пераважна сялянская. Дэмаграфічны фактар збольшага абумовіў накірунак палітычнай барацьбы. На ўліваць яго — азначала асудзіць вызваленчы рух на паразу. Магчыма, незваротную.

Каліноўскі неагляднa верыў у магутную стваральную сілу народу. А іншага шляху не было, як не было і іншага народу.

Ліпеньскімі сьпякотнымі днямі 1862 г. на жытнёвых палетках Беларусі касцы і жнейкі пачалі падбіраць «лятучыя лісткі», пісаныя роднаю моваю.

***Мужыцкая праўда, № 1.***

*Дзяцюкі!*

*Мінула ўжо тое, калі здавалася ўсім, што мужыцкая рука здатна толькі да сахі, — цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці, і то пісаці такую праўду справядлівую як Бог на небе. О, загрымиць наша праўда і як маланка пераляціць па сьвеце! Няхай пазнаюць, што мы можам ня толькі карміць сваім хлебам, але яшчэ і вучыць сваёй мужыцкай праўдай.*

*Пыталі і пытаюць усе, што чуваці на сьвеце, хто нам, бедным мужыкам, дасьць вольнасьць? Ды праўду кажучы, мала хто хоча сказаці так, як сумленьне кажа, — па-справядлівасьці. Мы, мужыкі, браты вашыя, мы вам будзем гаварыць цэлую праўду, толькі слухайце нас!*

*Маскалі, чыноўнікі і многа паноў будуць перапыняць пісьмо наша да вас, але знойдуцца людзі і з мужыкоў разумнейшыя, і з панскага роду, і з местачковых, што хочуць вашай свабоды, вашага шчасьця — яны та вам гэта пісьмо даваці будуць, каб вы зналі, хто ваш прыяцель, а хто вораг.*

*Шэсьць лет ужо мінула, як пачалі гаварыць пра свабоду мужыцкую. Гаварылі, талкавалі і пісалі многа, а нічога не зрабілі. А гэты маніфест, што Цар з Сэнатам і з панамі для нас напісаў, то такі дурны, што чорт ведае да чаго ён падобны, — ніякай у ім няма праўды, няма зь яго для нас ніякай карысьці. Парабілі Канцэляры, зрабілі суд, як бы гэта ні ўсё роўна атрымаць у ср...у з судом ці без суда. Парабілі Пісараў, Пасрэднікаў, а ўсё за мужыцкія грошы і вялікія грошы — чорт іх ведае нашто; для таго хіба, каб запісвалі ў ксёнжкі, як многа напішуць па ср...х мужыцкіх. А з гэтага то і відаць, што нам нічога добрага і ня думалі зрабіці.*

*Праўда, абяцалі калі-небудзь даць нам вольнасьць, але як нам здаецца на наш мужыцкі розум, што хочуць ашукаці, бо калі праз шэсьць год нічога не зрабілі, то праз год пэўна ж ня зробяць. Могуць яшчэ напісаці і другі маніфест, яшчэ больш ад гэтага, але з другога маніфесту нічога добрага як і зь першага ня будзе.*

*Ад маскаля і паноў няма чаго спадзявацца; бо яны ня вольнасьці, а зьдзерства і глуму над намі хочуць. Але ня доўга яны нас будуць абдзіраці, бо мы пазналі дзе сіла і праўда, і будзем ведаць як рабіць трэба, каб дастаць зямлю і свабоду. Возьмемся, дзецюкі, за рукі і трымайся разам! А калі паны хочуць трымацца з намі, дык няхай жа робяць па сьвятой справядлівасьці: бо калі інача — дык чорт іх пабяры! Мужык пакуль здужае трымаці касу і сякеру, бараніць сваё патрапіць і ў нікога ласкі прасіць ня будзе.*

*Гэту Мужыцкую праўду пісаў і зноў пісаці будзе Яська-гаспадар з-пад Вільні.*

132 гады мінула, аднак і за незалежнасьць Беларусі, і за свабоду друку ўсё яшчэ даводзіцца змагацца.

**Публікацыю падрыхтаваў Язэп КАРЛОВІЧ**

# У друскеніцкім санаторыі „Беларусь“ новыя парадкі

**Санаторый «Беларусь» у Друскеніках, гісторыя якога налічвае амаль 50 гадоў, усё часцей называюць «былым». Гэта можна пачуць нават з вуснаў першых асобаў Летувы. І хоць чужым дабром, як кажуць, не запаможасься, аднак тут маем выпадак, калі гэтае дабро дрэнна ляжыць.**

З таго часу, як наша суседка Летува аднавіла сваю незалежнасьць, статус санаторыя «Беларусь» застаецца няпэўным. Урад Кебіча за чатыры гады так і ня здолеў засьведчыць правы нашай краіны на сваю ўласнасьць у рамках новых міждзяржаўных рэаліяў. Страчаны час ужо добра спрацаваў і працягвае працаваць супраць санаторыя «Беларусь» як менавіта беларускае ўстановы, назва якой усё больш супярэчыць парадкам, што тут усталёўваюцца і ўсё менш адлавядае інтарэсам нашай краіны.

Пазыцыі беларускасьці здаюцца адна за адной. Ідзе пасхораны штучны працэс «летувізацыі» лекарскага пэрсаналу і ўсяе абслугі. Больш за 70% працоўнага калектыву санаторыя — грамадзяне Летувы. Таму ня дзіва, што і справаводзтва ў беларускай установе вядзецца на літоўскай мове. А хіба не насьмешкаю з нас, беларусаў, выглядае той факт, што на пасаду галоўнага лекара заступіў чалавек небеларускага грамадзянства, да таго ж і не беларускага паходжаньня, які, перш-наперш, нізавошта не нясе юрыдычнай адказнасьці перад беларускай дзяржавай.

Калі ўлічыць, што ў санаторыі круглы год папраўляюць здароўе беларускія дзеці, што тут наладжаны навучальны працэс (ёсьць агульнаадукацыйная школа) — дык зусім зразумела, што беларускі бок не павінен быў пускаць справу на самацёк.

Тым часам мясцовыя гарадзкія ўлады зьвярнуліся ў свой Сэйм і ўрад з просьбаю паскорыць вырашэньне лёсу санаторыя «Беларусь» — перадаць яго Міністэрству аховы здароўя Летувы альбо ўладам Друскенікаў. «Санаторый, які працуе не паводле законаў Літоўскай Рэспублікі, — адзначаецца ў іхным звароце, — абмяжоўвае правы летувіскіх грамадзянаў, якія там працуюць». Вось так. Каму якая розьніца, чые бычкі, былі б нашыя цяляткі.

Мне давялося быць сьведкам, як выхавацелька сабрала групу дзяцей і бязь лішніх цырымоніяў расставіла акцэнты: **«Ничего не трогайте руками, никуда не лезьте, вы находитесь в чужом государстве»**.

Я зусім ня супраць добрых манераў і годных паводзінаў маіх юных землякоў. Куды горш засвойваць «зялезныя» акцэнты.

Або такі малюнак з натуры. У вечары дня заезду стомленыя бацькі чакаюць гаспадыню гасьцініцы (г.зв. ізалятар). Тая прыходзіць, надта запазьніўшыся, і тэатральна, поўная важнасьці, зьвяртаецца да людзей па-літоўску. Пасьля паўтарае па-расейску... Калі б гэта быў літоўскі санаторый, падумаў я, дык такую моўную рытуальнасьць расцаніў бы як штосьці экзатычнае, нават вартае павагі. А гэты раз быў абражаны: за каго ж нас тут маюць?

Стаіць тут таксама 10-павярховы корпус, які належаў славутай управе Міністэрства аховы здароўя (г.зв. лечкамісіі). Ужо амаль чатыры гады ён пустуе. Звонку яшчэ захоўвае нейкі-сякі выгляд сучаснага будынка, а ўсярэдзіне ўсё разрабавана. Сплылі ў невядомым кірунку дарагія дываны, люксовая мэбля, крышталь, парцаляна, творы жывапісу, сантэхніка — лічу, усё да ніткі вывезлі. Хто? Беларускія чыноўнікі.

27 ліпеня, калі я ад'язджаў з Друскенікаў, дзяржаўных сьцягоў на карпусах беларускага санаторыя не было...

**Віталь ПРОШЧА**

# Богу прыемная малітва на любой мове

**Паводле апошняга перапісу насельніцтва, у Менску жыве 53 244 украінцы — гэта 3,3 % ад агульнай колькасьці жыхароў сталіцы Беларусі.**

Пачынаючы зь 7 чэрвеня і кожную наступную нядзелю для ўкраінцаў грэка-каталіцкага веравызнаньня будуць праводзіцца набажэнствы на іх роднай мове. Ініцыятарам гэтай ідэі па просьбе парафіянаў выступіў айцец Казімір Ляховіч. Да пабудовы грэка-каталіцкай царквы вернікі змогуць наведваць набажэнствы ў капліцы, што ўладкаваная ў жылым доме па вуліцы Прытыцкага, 38.

**Марат УРУБЛЕЎСКІ**

# «Разам будзем служыць Госпаду» у посткамуністычным грамадзтве

**З 25 па 31 ліпеня ў Лілехамэры (Нарвэгія) праходзіў Кангрэс эвангельскіх хрысьціян-баптыстаў Эўропы, у якім удзельнічалі дэлегацыі з краінаў былога СССР.**

Дэлегацыю з 37-мі беларускіх пастараў узначальваў прэзыдэнт Саюза эвангельскіх хрысьціян-баптыстаў Беларусі Аляксандар Фірысюк. На кангрэсе ён выступіў з дакладам «Разам будзем служыць Госпаду», у якім аналізаваліся духоўныя патрэбы чалавека ў посткамуністычным грамадзтве.

**Марат УРУБЛЕЎСКІ, БелаПАН**

# Беларусі — аўтакефальную царкву

**Менск наведаў Уладыка Эмігідзіюш Рыжы, беларускі Апостальскі Адміністратар Амэрыканскага Сусьветнага Патрыярхату, ураджэнец Гарадзеншчыны, які больш за 50 гадоў ня быў на Беларусі.**

На прэс-канфэрэнцыі ў офісе Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» ён адзначыў, што мэта яго нага візіту ў Беларусь — «займець у краіне аўтакефальную царкву, Беларускі Патрыярхат». Бо, як лічыць Уладыка, ні рыма-каталіцкая царква, падпарадкаваная Рыму, ні беларуская праваслаўная царква, падпарадкаваная Маскоўскаму Патрыярхату, не садзейнічаюць станаўленьню Беларускай дзяржавы. На думку сьвятара, пакуль у Беларусі не ўсталюецца Беларуская Народная Царква (БНЦ) ня можа быць і гаворкі «пра сапраўдную незалежнасьць і самастойнасьць краіны».

У якасьці даведкі: БНЦ дзейнічае ў Амэрыцы і мае 22 прыходы.

**Юрась ДУБІНА, БелаПАН**

# Супраць Гітлера і Сталіна, за незалежную Польшчу

Да 50-х угодкаў Варшаўскага паўстаньня



**Варшаўскае паўстаньне часам не без падставаў называюць „паўстаньнем юнакоў і дзяўчат“. Бо яны самі, цалкам самастойна, прымалі рашэньне пра тое, зьявіцца ім ці не на ўказаны пункт збору, каб прыняць удзел у барацьбе.**

1 жніўня 1944 г. у Варшаве пачалося паўстаньне, мэтаю якога было вызваленьне польскімі жаўнерамі сталіцы ад фашысцоўскіх акупантаў і перадача ўлады законным прадстаўнікам ураду РП.

Загад пачаць барацьбу 1 жніўня не атрымалі своечасова многія камандзеры і атрады Арміі Краёвай. Таму паўстаньне пачалося з амаль напалову меншымі сіламі — каля 25 тыс. — зь якіх толькі каля 10% мелі зброю. Паўстанцы праз суткі бai захапілі некалькі аб'ектаў, занятых немцамі, большую частку такіх раёнаў горада, як Сьрудмесьце з Павісьлем, Жалібуж, Макотуў, Воля, Старое Места, часткова раён Ахота і некалькі кварталаў Прагі.

Да 11 жніўня немцы змаглі перамагчы паўстанцаў на Волі і Ахоце, у раёне Прага паўстаньне было падаўлена ўжо праз чатыры дні. У захопленых раёнах немцы пачалі зьнішчаць людзей. Недахоп зброі абмяжоўваў магчымасьць актыўных дзеяньняў паўстанцаў. Не магла зьмяніць сытуацыі і дапамога польскіх, ангельскіх ды паўднёва-афрыканскіх лётчыкаў. Амэрыканская эскадрыльля — больш за 100 самалётаў — зьявілася над Варшаваю толькі 18 верасьня, бо Сталін не даваў згоды на ейны вылет.

19 жніўня немцы пачалі генэральнае наступленьне на Старое Места. Спроба паўстанцаў 20-га жніўня прарвацца і злучыцца з Жалібужам сарвалася. Пасьля цяжкіх баёў, калі змагаліся за кожны дом, перад пагрозаю ліквідацыі Старамейскага цэнтру было вырашана пакінуць Старуўку. Пасьля яшчэ адной няўдалай спробы прарваўцца да Сьрудмесьця 31 жніўня абаронцы былі эвакуяваныя праз гарадзкую каналізацыю. Захапіўшы Старое Места, немцы скіравалі атаку на Сьрудмесьце, спрабуючы выцесьніць паўстанцаў ад берагоў Віслы. Акупантам гэта часткова ўдалося: да 5 верасьня яны захапілі Павісьле. Пасьля паразы ў Павісьлі адзіным раёнам паўстаньня, прылеглым да Віслы, быў Чарнякуў, які зь цяжкасьцямі падтрымліваў сувязь са Сьрудмесьцем, якая была канчаткова перарваная 11 верасьня.

14 верасьня Чырвоная Армія і 1-я Армія Войска Польскага вызвалілі Прагу і выйшлі да ўсходняга берага Віслы. 16—21 верасьня атрады 1-й Арміі Войска Польскага пераправіліся цераз Віслу і ўтварылі два невялікія плацдармы у Чарнякуве і Жалібужы. Перакінутыя сілы — каля 5 батальёнаў — не змаглі ўтрымаць плацдармаў.

Адцясьніўшы паўстанцаў ад Віслы і ліквідаваўшы плацдармы, немцы накіравалі сілы на захоп Макотува і Жалібужа. Да 27 верасьня быў захоплены Макотуў, зь якога ўдалося эвакуяваць каля 2 тысяч паўстанцаў у Сьрудмесьце. 29 верасьня пачалося нямецкае наступленьне на Жалібуж. Праз дзень Жалібуж капітуляваў. Ня маючы іншых магчымасьцяў, камандаваньне паўстаньня вырашыла пачаць перамовы аб капітуляцыі. Пасьля некалькіх дзён перамоваў, 2 кастрычніка 1944 года, у Ажараве пад Варшавай быў падпісаны акт капітуляцыі.

Нягледзячы на гераізм жаўнераў і жыхароў Варшавы, паўстаньне падавілі. Яно працягвалася 63 дні, загінула 18 тысяч паўстанцаў, 25 тысяч было паранена, загінула таксама 200 тысячаў чалавек з грамадзянскага насельніцтва. Страты нямецкага боку склалі 17 тысячаў забітых і зьніклых, а таксама каля 9 тысяч параненых. Гэта больш, чым у верасьні 1939 года.

Параза Варшаўскага паўстаньня стала паразаю ня толькі вайсковаю, але таксама палітычнаю і матар'яльнаю, бо яно зрабілася падставаю для поўнага зьнішчэньня горада. Барацьба немцаў з паўстанцамі зьяўлялася самай жорсткай акцыяй, праведзенай у адным месцы адначасна, якая адбывалася без удзелу саюзніка нашых саюзьнікаў — СССР. Вось чаму гэтая барацьба, што стала прыкладам чалавечае вынослівасьці, сярод агню і руінаў — ня мае роўні ў польскай гісторыі.

**Анджэй ХМЕЛЯЖ, навуковы супрацоўнік Вайсковага інстытуту гісторыі (Варшава)**

## Ня лётайце самалётамі Аэрафлёту!

**Дзярждэпартамэнт ЗША ў сваёй інструкцыі прызнаў грамадзянскі авіяфлёт Расеі небясьпечным ды састарэлым.**

У сувязі з пагрозаю для жыцьця ўсім амэрыканскім дзяржаўным чыноўнікам, якія знаходзяцца на тэрыторыі Расеі, загадана не карыстацца ўнутранімі авіарэйсамі, а за межы гэтае краіны лятаць самалётамі нерасейскіх авіякампаній.

**Ян ГРЭЧЫЦ**

## Балтыя набліжаецца да ўступленьня ў ЭС

**Летува, Латвія і Эстонія падпісалі з Эўрапейскаю Супольнасьцю дамову аб свабодным гандлі.**

Асноўныя яе палажэньні можна зьвесьці да наступнага: Здымаюцца перашкоды для гандлю прамысловымі таварамі вытворчасьці краінаў Балтыі ў Эўропе; У сваю чаргу балтыцкія краіны бяруць на сябе абавязкі скараціць датацыі ўласнай сельскай гаспадарцы.

Кіраўніцтва ЭС заявіла, што падпісаная дамова «ўлічвае глыбокія эўрапейскія карані краінаў Балтыі». На грунце гэтае дамовы дзяржавы Балтыі спадзяюцца да 2000 г. увайсьці ў ЭС.

**Ян ГРЭЧЫЦ**

## Выгляд даляра зьменіцца

**Як паведаміла Міністэрства фінансаў ЗША, вонкавы выгляд даляра будзе зьменены.**

Дызайн новых банкнотаў павінен быць распрацаваны ў наступным годзе. Новыя 100-даляравыя купюры будуць пушчаныя ў абарот у 1996 годзе, а больш дробныя — пазьней.

Прычына такіх дзеяньняў ураду ЗША — занепакоенасьць зьяўленьнем якасных фальшывак, зробленых па самых сучасных тэхналёгіях, у тым ліку кампутарных.

Вонкавы выгляд даляра не мяняўся практычна ад пачатку гэтага стагодзьдзя.

***DPA***

# Украіна пасьля выбараў

**«Ня той зараз Кіеў, рэчка Днепр ня тая» — так можна было б перафразаваць Мікалая Гогаля для апісаньня сёньняшняй сытуацыі на Ўкраіне.**

Нягледзячы на некаторыя пазыцыі новага прэзыдэнта, усіх радуе факт мірнага пераходу ўлады ад адной палітычнай сілы да другой, ад аднаго кіраўніка дзяржавы да другога. Ва ўсіх на памяці іншая, савецка-камуністычная практыка — зьмена ўлады магчымая толькі праз пераварот (як у Расеі ў апошняе дзесяцігодзьдзе, а «правадыр»-кіраўнік уладарыць пакуль жыве.

Палітолягі і экспэрты, аналізуючы прыход да ўлады цалкам процілеглага Краўчуку чалавека, кажуць пра абавязковую «капіталізацыю» Ўкраіны з ухілам у бок Расеі. Леанід Кучма пасьля выбараў адчувае сябе ўпэўнена і гатовы да кардынальных перастановак ва ўрадзе. Першай «ахвярай» новае улады стаў міністар унутраных справаў сп.Васілішын.

У інтэрвію «Інтэрфакс-Україна» Леанід Кучма заяўляе, што ні ў якім выпадку не зьбіраецца паслухмяна ісьці за цяперашнім камуністычным парлямантам і пачувацца «ангельскаю каралеваю». У бліжэйшы час, сказаў Леанід Кучма, адбудуцца кадравыя зьмены ў Міністэрстве замежных справаў і ў Міністэрстве абароны. Хутчэй за ўсё таму, што як міністар замежных справаў Анатоль Злэнко, гэтак і міністар абароны Віталь Радзецкі ўспрымаюцца як «людзі Краўчука».

Рэагуючы на першачарговыя праблемы, Кучма кажа, што запрашае працаваць вядомых украінскіх эканамістаў рыначнікаў-рэфарматараў Уладзімера Ланавога і Віктара Пынзэныка. Пра Крым новы прэзыдэнт гаворыць, як пра частку Украінскае дзяржавы, а пра Севастопаль, як пра горад дыслякаваньня ЧФ Расеі. Леанід Кучма прапануе здаць у доўгатэрміновую арэнду толькі ваенна-марскія базы Крыма, але ня сам горад Севастопаль цалкам.

Пра ядравую зброю Леанід Кучма заяўляе проста — чым хутчэй мы пазбавімся ад ракетаў, тым будзе лепей для нас.

Грыўну, па словах прэзыдэнта, уводзіць у бліжэйшы час ня мае сэнсу. Але рэформаў у грашовай палітыцы не ўнікнуць — гатовы праект указа аб рэгуляваным курсе, які будзе ўстанаўлівацца адпаведна штотыднёваму плацёжнаму балянсу і таргам на валютнай біржы.

Няцяжка прасачыць у перадвыбарчых і пасьлявыбарчых выступах Леаніда Кучмы ўхіл на Ўсход — у бок Расеі і СНД. На фоне Кучмы Краўчук становіцца «крутым» нацыяналістам, хаця, на самой справе гэткім не зьяўляецца. Цалкам магчыма, што заклік Кучмы зьвярнуць больш увагі на стасункі з Расеяй — нейкі перадвыбарчы трук, і ўзаемадачыненьні з усходнім суседам ва Ўкраіны будуць разьвівацца ня так гладка, як хацелася б некаторым прыхільнікам новага прэзыдэнта зь левага лягеру. Наўрад ці адразу ж Кучма «ўпадзе» ў абдымкі да Барыса Ельцына. Вопыт суседняй Беларусі сьведчыць пра тое, што ў «расейскага мядзьведзя» наўрад ці зьмяніўся мэнталітэт, выхаваны на працягу доўгіх стагодзьдзяў існаваньня імпэрыі. Абдымкі «шчадралюбных» да іншых народаў расейцаў з кожным днём усё мацнеюць. І ўсё больш гучным становіцца кліч з Масквы пра «вялікасьць Расейскай дзяржавы».

Прыход да ўлады Кучмы «Рух», дэмакраты і нацыянал-дэмакраты ўспрынялі як факт. Заявіўшы пра сваю гатоўнасьць супрацоўнічаць з новым прэзыдэнтам, амаль усе дэмакратычныя партыі ў той жа час выказалі занепакоенасьць з прычыны «праўсходняй» палітыкі Кучмы. Актыўныя процідзеяньні вырашана рабіць падпісаньню кабальнага эканамічнага саюзу з Расеяй і поўнаму ўваходу Украіны ў СНД — бо гэта шлях адраджэньня новае імпэрыі, нэа-СССР.

Тым ня менш, дэмакраты выказалі спадзяваньне, что Леанід Кучма будзе верны дадзенай прысязе прэзыдэнта, працаваць на карысьць станаўленьня незалежнасьці і саборнасьці Ўкраіны.

Нельга таксама не зьвярнуць увагі на ініцыятыўнасьць Украіны ў вонкавай палітыцы і ў Эўрапейскай супольнасьці ў прыватнасьці. Апроч прыбалтаў, Украіна, відаць, адна зь нешматлікіх «сясьцёр», якая павольна, але ўпэўнена рушыць да прызнаньня свайго эўрапейскага паходжаньня. Удзел Украіны ў паседжаньні Цэнтральна-Эўрапейскай ініцыятывы дае падставы аптымістычна глядзець на адносіны Эўропа-Украіна, бо ў адваротны бок (Украіна-Эўропа) добрых намераў і прапановаў — хоць адбаўляй.

Магчыма ў процівагу заявам Кучмы пра пэўную арыентацыю на Расею, апазіцыйныя партыі правялі 29—30 ліпеня ў Кіеве нараду партыяў краін Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёну (Міжмор'я) — ад Прыбалтыкі да Баўгарыі. На кангрэс сабраліся парляманцкія партыі ўсходне-цэнтральнай Эўропы (Эстонія, Латвія, Летува, Беларусь, Польшча, Славакія, Славенія, Чэхія, Венгрыя, Румынія, Малдова, Македонія, Харватыя, Баўгарыя). На кангрэсе плянавалася структураваць работу партый у гэтым рэгіёне і спрыяць ажыцьцяўленьню ідэі стварэньня Балтыйска-Чарнаморскай садружнасьці. Як назваў ідэю аб'яднаньня пост-сацыялістычных краін прэзыдэнт Польшчы Лех Валэнса — НАТО-біс і ЭС-біс.

Нягледзячы на больш рэзкі характар новага «украінца №1», чакаць рэзкай канфрантацыі паміж прэзыдэнтам, парлямантам і прэм'ер-міністрам ня варта. У доказ таму Леанід Кучма, Аляксандар Мароз і Віталь Масол падпісалі сумесную заяву аб згодзе і супрацоўніцтве. Галоўная перашкода ў рэалізацыі гэтай заявы ў тым, каб дзяржаўныя мужы не пайшлі па шляху вядомых крылоўскіх лебедзя, рака і шчукі. Альбо, папросту кажучы — не заняліся перацягваньнем коўдры на сябе. Канфлікту «хто глаўнейшы» пазьбегнуць цяжка. Можна гаварыць толькі пра нейкі мараторый на рэзкія крокі ў адносінах адзін да аднаго. Парлямант, які мае камуністычную бальшыню, ужо зрабіў паўкрока да абвастрэньня сытуацыі, калі прыняў закон аб мясцовых Саветах. Па сутнасьці, «новы» закон — гэта часткова падрэтушаваны стары закон, які нясе блытаніну ў структуры ўлады.

Відавочны момант украінскай эканомікі на перадвыбарчым и пасьлявыбарчым этапе — курс амэрыканскага даляра да ўкраінскага карбованца рэзка ўпаў. Калі ў пачатку месяца даляр каштаваў 55-60 тысяч карбованцаў, то сёньня — 41—43 тысячы. Пасьля выбараў курс некалькі падскочыў, але тэндэнцыя апошніх дзён гаворыць пра далейшае падзеньне курсу даляра.

Паводле прагнозаў палітолягаў і са словаў людзей, набліжаных да Кучмы, на гэтым тыдні пачнуцца кардынальныя перастаноўкі ва ўрадзе і фармаваньне прэзыдэнцкай адміністрацыі. Дзейнасьць Кучмы будзе спрыяць разьвіцьцю рынкавых адносінаў, бо Леанід Данілавіч у перадвыбарчым марафоне выказаўся даволі рашуча: «Я буду праводзіць гвалтоўную прыватызацыю. Я за дыктатуру ў эканоміцы». Некаторы супраціў будуць аказваць сацыялісты і камуністы — парляманцкая бальшыня, але вельмі цяжка будзе спыніць прыватызацыю, якая з кожным днем набірае ўсё большыя абароты.

Пасьля давыбараў у Вярхоўны Савет сытуацыя ў парляманце можа зьмяніцца — альбо большы голас будуць мець камуністы, альбо папаўненьне ў шэрагах дэмакратаў ураўнаважыць сілы і парлямант зможа выпрацаваць нармальныя законы ў інтарэсах дзяржавы, а ня толькі партыі,што кіруе.

Сумуючы вынікі паўгадавога перадвыбарчага марафону, можна сказаць словамі былога прэзыдэнта Ўкраіны Леаніда Краўчука: «маем тое, што маем». Так, магчыма ўкраінцы заслугоўваюць менавіта гэткага прэзыдэнта і гэткі парлямант. Зрэшты, мы самі выбіралі сваю будучыню.

**Раман СКРЫПІН,**
**спэцыяльна для СВАБОДЫ**

## Украінская марская пяхота прымае прысягу

**24 ліпеня маладое папаўненьне батальёну марской пяхоты ВМС Украіны ўпершыню прыняло прысягу паводле новага рытуалу.**

Кожнаму з маладых байцоў была ўручаная эмблема з выяваю воўчай галавы.

## Малдаване хочуць, каб іхная мова называлася румынскаю

**Жыхары Кішынёва пратэстуюць супраць прызнаньня парлямантам Малдовы дзяржаўнаю малдаўскае мовы, а не румынскае.**

Мовы амаль ідэнтычныя, але ў 1989 годзе дзяржаўнай мовай была названая румынская. Два тыдні таму парлямантарыі вырашылі назваць яе малдаўскаю. Такім рашэньнем незадаволеныя жыхары, якія выступаюць за аб'яднаньне з Румыніяй. Парлямант таксама вырашыў зьмяніць гімн, што раней быў ідэнтычны румынскаму.

## У Расеі падвышаецца плата за зямлю

**Савет Фэдэрацыі РФ на мінулым тыдні ўнёс зьмены ў закон «Аб аплаце за зямлю».**

Адпаведна прапанаваным зьменам прадугледжваецца агульнае падвышэньне ставак зямельнага падатку ў 50 разоў да ўзроўню 1991 г. У выніку грамадзяне за надзел у 10 сотых гектару ў сельскай мясцовасьці будуць плаціць 5 тыс. руб. у год, а ў гарадох — 10 тыс. руб.

Падатак на зямлю сельскагаспадарчых прадпрыемстваў складзе ад 550 руб (Мурманская вобласьць) да 4950 руб. за гектар (Краснадарскі край).

Больш за ўсіх будуць плаціць прамысловыя прадпрыемствы — ад 50 тыс. да 100 тыс. рублёў за гектар.

**З паведамленьняў інфармацыйных агенцтваў**

# Для мафіі няма кардонаў

**— Нашыя крымінальнікі дапамогуць вашым зарганізаваўцца — перасьцерагаў летась польскіх калегаў намеснік начальніка Дэпартамэнта па справах арганізаванай злачыннасьці ў расейскім МУС Генадзь Чабатароў. Прагноз спраўдзіўся.**

У Расеі дзейнічае звыш 4.000 арганізаваных злачынных груповак. Зь іх 300 — мафіёзныя, часта з этнічнай афарбоўкай, як, напрыклад, чачэнская ці ўкраінская.

— Мафія апанавала нашую эканоміку — зазначыў Чабатароў. — Няма нападаў на банкі, бо ўсе яны пад кантролем мафіі. Мафія ў стане, напрыклад, зарганізаваць крадзеж і перавозку 8.000 тон каляровых металаў з уральскіх заводаў за мяжу. Абароты чорнага рынку складаюць каля 100 мільярдаў даляраў. Каля 30 працэнтаў даходаў мафія ўжывае на подкуп урадавых чыноўнікаў. У 1993 расейскія мафіёзныя групоўкі здолелі зьмясьціць у замежных банках звыш 25 млрд. даляраў.

### Мыццё брудных грошай

Галоўным полем дзейнасьці мафіёзі з былога СССР становіцца польская эканоміка. Узьнікае ўсё болей суполак, удзельнікамі якіх зьяўляюцца жыхары былога СССР, якіх мафія вымушае да «супрацоўніцтва». Часам «прыкрыцьцё» яшчэ лепшае: суполка можа ўваходзіць у склад холдынгавай кампаніі зь «мяшаным» капіталам з Усходу і Захаду. Шмат суполак з удзелам жыхароў былога Саюзу ўтвараецца толькі для таго, каб улік у польскім банку стаў чарговым зьвяном у міжнародным ланцугу адмываньня брудных грошай. Справа некаторых сумесных прадпрыемстваў — ня толькі легальная гандлёвая дзейнасьць, але і пошук па абодвух баках мяжы аптовых пакупнікоў нелегальнага тавару, арганізацыя сеткі яго распаўсюджаньня шляхам запісу ў дакуманты фіктыўнай фірмы. У рукі польскай паліцыі трапляюць толькі фірмы, якія гандлююць нелегальным таварам і перавозяць яго да былога СССР, як, напрыклад, варшаўскі мытны склад Сорых, зь якога вывозілі ў Маскву тайландзкія ўбраньні, не заплаціўшы 74 млн. мытнага падатку. Убраньні нелегальна прадаваліся ў маскоўскіх крамах, а прыбыткі з таго мела расейская злачынная арганізацыя.

Паводле словаў польскай паліцыі, тавар для крамаў, якія належаць мафіі на Украіне, Беларусі і ў Маскве, здабываюць якія-небудзь таксама дзесяткі фірмаў, якія купляюць у польскіх гуртоўнях тавары ў крэдыт. Калі прыходзіць тэрмін выплаты, аказваецца, што фірма зьліквідавалася, а ўладальніка яе знайсьці немагчыма.

### Купоны лічылі на тоны

Адна з крымінальных груповак надрукавала столькі ўкраінскіх купонаў, што ледзьве ня выклікала бюджэтную крызу на Украіне. Самі злачынцы нават не былі ў стане сказаць, колькі грошай яны надрукавалі. Лічылі купоны тонамі. Яны былі так добра падробленыя, што банкі не распазнавалі фальшывак. Грошы перавозіліся на Ўкраіну для разьлікаў за фіктыўныя і сапраўдныя зьдзелкі паміж польскімі і ўкраінскімі фірмамі. Гэтая ж мафіёзная групоўка рэгістравала фірмы ў Польшчы, на Ўкраіне і Беларусі з дапамогай фальшывых дакумантаў, дазволаў і г. д.

Няўдачай скончыласяназіраньне за групай, якая падрабляла расейскія і беларускія рублі. Грузавік з шасьцю тонамі паперы, прызначанай для фальшывак, за якім сачыла польская паліцыя, «згубіўся» ў лясох пад Варшавай.

### Вялікі аўтамабільны шлях на Ўсход

Лічба скрадзеных аўтамабіляў павялічылася ў Польшчы з 29.000 у 1992 г. да 55.000 у 1993-м. Большасьць «выехала» за Буг.

Польскія мафіёзныя групоўкі супрацоўнічаюць са шматлікімі ўсходнімі групамі, якія прадаюць крадзеныя машыны ў сябе на радзіме, альбо пераганяюць іх далей, у Кітай, Турцыю, Пакістан і Індыю. Паляікі адказваюць за перагон аўтамабіляў з Захаду да Польшчы, замену нумароў і дастаўку да ўсходняй мяжы. Банды з розных краінаў дзеляць барышы паміж сабой.

### 200 беларусаў рэгулярна кантактуюць з польскімі злачынцамі

Польская паліцыя пацьвярджае, што крымінальныя групы з-за Буга аб'ядноўваюцца з польскім крымінальным сьветам, пасьляхова супрацоўнічаюць і дзеляцца досьведам. Напрыклад, украінска-расейскія банды прывезьлі ў Польшчу новы від крыміналу: напады на дарогах. Асноўны рэгіён здарэньняў — Беластоцкае ваяводзтва; пасьля нападу адтуль вельмі лёгка ўцячы за мяжу. Болей за ўсё нападаў адбываецца на трасах Усход — Захад у Познаньскім, Варшаўскім, Кракаўскім і Гожаўскім ваяводзтвах. Расьце колькасьць нападаў на турыстаў, якія вязуць тавар з Чэхіі і Славакіі праз Кросьненскае і Бельскае ваяводзтвы. Прыкрыцьцё маюць таксама зборшчыкі падаткаў з польскіх рынкаў і алекуны ўсходніх прастытутак. Паводле зьвестак польскай паліцыі, у Польшчы «стала працуе» 1200 дзяўчын з-за Буга. Палякі даюць гатэль, жыхары былога СССР — «дзяўчынак» і ахову.

Ніхто ня ведае дакладна, колькі злачынных груповак з-за Бугу дзейнічае ў Польшчы ці прыяжджае сюды на гастролі. Міхаіл Рухляеў, супрацоўнік беларускага МУС, лічыць, што пастаянна працуюць з польскімі крымінальнікамі 23 беларускія банды. З 200 беларусаў, якія рэгулярна кантактуюць з польскімі злачынцамі, 80 працэнтаў не фігуруе ў крымінальных картатэках Польшчы.

**Паводле матар'ялаў *Gazety Wyborczej***

## Руцкі выказвае намеры...

**У інтэрвію чэскай газэце «Лідовэ новіны» былы віцэ-прэзыдэнт Расеі Аляксандар Руцкі, верагодны кандыдат на наступных прэзыдэнцкіх выбарах, заявіў, што ён хоча аднавіць Расею ў межах, якія існавалі ў 1915 годзе.**

Паводле ягоных словаў, да тых краінаў, што ня схочуць далучыцца да саюзу, будуць прымененыя міжнародныя гандлёвыя стандарты, а да краінаў, якія выступяць супраць Расеі, будуць перарваныя шляхі дастачы і спыненая падача энэргіі.

## Піратаў прыціснулі

**Міжнародны Марскі Камітэт паведаміў, што ўзмоцненае змаганьне зь пірацтвам дало добрыя вынікі — колькасьць такіх злачынстваў паменшылася.**

Так, за першыя шэсьць месяцаў 1994 г. зарэгістраваны 42 выпадкі пірацкіх нападаў, у той час як за адлаведны пэрыяд 1993 г. іх было 75, а ў 1992 г.— 83.

Галоўнай праблемай застаецца пірацтва ў Інданэзіі. Менавіта тут адбыліся дванаццаць з сарака двух выпадкаў за гэты год.

## Расейскія шпіёны — сярод найлепшых

**Вячаслаў Трубнікаў, намесьнік шэфа расейскага вышуку, сьцьвярджае, што шпіёнская служба ягонай краіны мае высокія маральныя якасьці і належыць да адной з найсправнейшых у сьвеце.**

Паводле словаў Трубнікава, расейская выведка стаіць на ўзроўні такіх спэцслужбаў, як ізраільскі Mossad, амэрыканская CIA і брытанская Secret Service. Расейскі вышук зьяўляецца спадкаемцам савецкага КГБ, але можа залічыць у сваю гістарычную традыцыю і досьвед царскай ахранкі.

**З паведамленьняў інфармацыйных агенцтваў**

### 8 канал

**Аўторак, 2 жніўня**

18.00 Для дзяцей: «Карусэль».
18.30 Студыя «Інтэкс» прэзэнтуе: «Навіны».
18.40 Мультсэрыял «Вальтрон».
19.05 «Лябірынт правасудзьдзя».
19.55 Мультфільм Ўолта Дыснэя «Пінокіё».
20.30 «Марэна Кляра».
21.20 БАНТ. Рэпартаж.
21.30 Шанц-прыз.
21.45 Фантастыка на экране.

**Серада, 3 жніўня**

18.00 Для дзяцей: «Карусэль».
18.30 Мультсэрыял «Вальтрон».
19.00 «Хіл-стрыт Блюз».
19.50 Мультфільм Ўолта Дыснэя «Пінокіё».
20.25 «Марэна Кляра».
21.15 Тэлежурнал «Вэльт-рэха».
21.35 Дэтэктыў... Баявік...

**Чацьвер, 4 жніўня**

18.00 Для дзяцей: «Карусэль».
18.30 Мультсэрыял «Вальтрон».
19.00 «Лябірынт правасудзьдзя».
19.50 Мультфільм Ўолта Дыснэя «Дамбо».
20.20 «Марэна Кляра».
21.10 БАНТ. Рэпартаж.
21.20 Прэзэнтацыя. Студыя «БМ».
21.35 На экране кінакамэдыя.

**Пятніца, 5 жніўня**

18.00 Для дзяцей: «Карусэль».
18.30 Мультсэрыял «Вальтрон».
18.55 Сямейны сэрыял «Швайцарскія рабінзоны».
19.45 Мультфільм Уолта Дыснэя «Дамбо».
20.15 Foxy music (паўтор).
21.00 БАНТ. Рэпартаж.
21.15 Клясыка кінэматографа.

**Субота, 6 жніўня**

15.00 «Згубленыя сакрэты кун-фу». Маст. фільм.
16.30 Казаньнік Кенэт Копленд.
17.00 Мультсэрыял «Трансформэры».
18.00 Прыгодніцкі сэрыял «Затока Небясьпечная».
18.30 «Бітва пры Куладзене», з цыклю «Гістарычныя баі».
19.30 «Кветка жарсьці».
21.00 Муз. праграма.
22.00 Студыя «Рэкорд» паказвае фільм.

**Нядзеля, 7 жніўня**

15.00 Для дзяцей і дарослых. «Іван ды Мар'я». Маст. фільм.
16.30 Камэдыйнае шоў «Схаваная камэра».
16.50 Мультсэрыял «Трансформэры».
18.00 «Кветка жарсьці».
20.30 Спорт-сакрэт.
20.55 Студыя «Рэкорд» паказвае маст. фільм.
22.40 Foxy music.

### Канал НТВ

**Аўторак, 2 жніўня**

17.00 Дзецям: мультфільм.
17.30 «Энцыкляпэдыя цудаў, ці вы хацелі пра гэта даведацца». Фільм 47-мы.
18.00 і 21.00 «Сёньня».
18.35 Спартовы калейдаскоп.
19.25 «Звар'яцелы сабака». Маст. фільм.
25.35 Тэлесэрыял «У пагоні за вясёлкай». 9-я сэрыя.
22.30 «Часінка».
22.55 «Матадор» Канстанціна Эрнста.

**Серада, 3 жніўня**

17.00 Дзецям: мультфільм.
17.30 «Энцыкляпэдыя цудаў, ці вы хацелі пра гэта даведацца». Фільм 48-мы.
18.00 і 21.00 «Сёньня».
18.35 Дзецям і дарослым. Шэкспірыяда. Мультфільм «Рамэа і Джульета».
19.05 «Стэпавы воўк». Маст. фільм.
21.35 Тэлесэрыял «У пагоні за вясёлкай». 10-я сэрыя.
22.30 «Часінка».
22.55 «Кавярня «Абломаў».

**Чацьвер, 4 жніўня**

17.00 Дзецям: мультфільмы.
17.30 «Энцыкляпэдыя цудаў, ці вы хацелі пра гэта даведацца». Фільм 49-ты.
18.00 і 21.00 «Сёньня».
18.35 «Такое спартовае жыцьцё».
19.20 «Каханьне і падман». Маст. фільм. (ЗША).
21.35 Тэлесэрыял «У пагоні за вясёлкай». 11-я сэрыя.
22.30 «Часінка».
23.00 Кіно не для ўсіх. «Яны». Маст. фільм.

**Пятніца, 5 жніўня**

17.00 Дзецям: мультфільмы.
17.30 «Энцыкляпэдыя цудаў, ці вы хацелі пра гэта даведацца». Фільм 50-ты.
18.00 і 21.00 «Сёньня».
18.35 Баскетбол. Чэмпіянат сьвету ў Канадзе.
19.25 Дзецям і дарослым. Мультфільм «Фільм, фільм, фільм».
19.50 Кіно 80-х. «Узьлёт». 1-я сэрыя.
21.35 Тэлесэрыял «У пагоні за вясёлкай». 12-я сэрыя.
22.35 «Часінка».
23.05 «Дзевансьвільскі кашмар». Маст. фільм. (ЗША).

**Субота, 6 жніўня**

17.00 Дзецям: мультфільм.
17.11 «Трэцяе вока».
18.00 «Сёньня».
18.35 «Ключ ад форда Баярд». 25-ты выпуск.
20.00 Баскетбол. Чэмпіянат сьвету ў Канадзе.
20.30 Дзецям і дарослым. «Паліцэйскі Кэтс і ягоны сабака». 33-я сэрыя.
21.00 «Надоечы».
21.45 Аўтаспорт: найвышэйшыя дасягненьні.
22.00 «Бабнік-2». Маст. фільм.
23.10 КВЗ-89. Другі паўфінал.

**Нядзеля, 7 жніўня**

17.00 Кінатэатар юнага гледача. «Робін Гуд. Бойка за карону».
18.35 «Мастацтва жыць».
19.05 Дзецям і дарослым. Мультфільм «Кантэрвільскі прывід». Сэрыял «Паліцэйскі Кэтс і ягоны сабака». 34-я сэрыя.
20.00 Вынікі.
21.10 Жан Габэн і Сымона Сіньёрэ у фільме «Кот» (Францыя).
22.40 Мультфільм для дарослых. «Гісторыя аднаго злачынства».
23.00 Баскетбол. Чэмпіянат сьвету ў Канадзе.
23.45 НТВ прэзэнтуе: анонс тыдня.

